# ЗЬМЕСТ.


Стар.

1. Соцыяльна-эканамічная ўстаноўка крэдытнай дзейнасьці сыстэмы с.-г. крэдыту БССР на 1927-28 г. (**Е. Трахімаў**) . . . . . . 1

**Сельская гаспадарка.**

2. Апрацоўка глебы (працяг) (праф. **С. В. Скандракоў**) . . . . . 5
3. Якія і як ставіць досьледы ў садзе (праф. **М. Бурштэйн**) . . . 10
4. Значэньне рахунковых запісаў для сялянскіх гаспадарак і як іх весьці (**Б. Бойка**) 11

**Палявая гаспадарка.**

5. Захоўваньне гною (Акруговы аграном **Уліцын**). . . . . . 15

**Сялянскі досьлед.**

6. 1750 пуд. бульбы з дзесяціны (**І. Хлапіцкі**) . . . . . . 18
7. Капуста па штучнаму ўгнаеньню (сел. **Я. Судак**) . . . . . 19
8. Культурная града (сел. **Ш.**) . . . . . . . . 20
9. Досьлед з кармовай бручкай (сел. **Л. Чалоўскі**). . . . . 20
10. Мой досьлед з кармавою морквою (сел.-дасьл. **А. Карнейчык**). . . 21
11. Досьлед над сэрадэляй (сел.-дасьл. **А. Івановіч**). . . . . 22

**Жывёлагадоўля.**

12. Мясцовая карова і яе правільная ацэнка (зоотэхн. **Е. Кляменчык**) . . 23
13. Жывёлагадоўля ў савецкіх гаспадарках (Агр. **Т. Анціпенка**) . . . 25
14. Засьцярога пры скарыстаньні папсаванае бульбы (**С. Х.**) . . . 26
15. Сельска-гаспадарчае рыбаводзтва (**М. К-ч**) . . . . . . 28
16. Што павінен ведаць гаспадар пра барацьбу з заразьлівымі хваробамі сьвіней (**М. Жарын**) . . . . . . . . . . . 29

**Сад і гарод.**

17. Як аднавіць існуючыя сады і падняць іх прыбытковасьць (праф. **М. Бурштэйн**) 30
18. Уплыў садовай гаспадаркі Браценкова на акружаючае насельніцтва (**П-віч**) . 32
19. Некалькі парад селяніну-пчаляру (**Міхась Сулкоўскі**) . . . . 34

**Лясная гаспадарка.**

20. Шануйце лес мясцовага значэньня (лесавод **Г. Барысевіч**) . . . 35
21. Паштовая скрынка. . . . . . . . . . . . 36

**Афіцыйны аддзел.**

22. Пастанова Народных Камісараў аб кантролі насеньня . . . . . 37
23. Пытаньні і адказы па зямельных справах . . . . . . 38
24. **С.-г. хроніка** . . . . . . . . . . . 39



**ВЫДАВЕЦТВА ДЗЯРЖПЛЯНУ БССР Менск, пляц Волі, № 5, тэл. 2-84.**

**ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1928 год** НА ШТОМЕСЯЧНУЮ ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНУЮ ЧАСОПІСЬ

**„САВЕЦКАЕ БУДАЎНІЦТВА“**

(ТРЭЦІ ГОД ВЫДАНЬНЯ).

Часопісь пераважна зварочвае ўвагу на пытаньні эканамічнага будаўніцтва і на вывучэньне гаспадаркі БССР. Акрамя таго, у часопісі знаходзіць адбітак і эканамічнае жыцьцё суседніх дзяржаў.

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:**

| С. С. С. Р. | | За граніцу. | |
|---|---|---|---|
| На 12 м-цаў | 10 руб. — кап. | На 12 м-цаў | $7^1/_2$ амэр. дол. |
| „ 6 „ | 5 „ 50 „ | „ 6 „ | 4 „ „ |
| „ 3 „ | 3 „ — „ | „ 3 „ | 2 „ „ |
| „ 1 „ | 1 „ — „ | „ 1 „ | 75 цэнтаў. |

Для раённых арганізацый, нізавых савецкіх, культурных працаўнікоў і студэнтаў устаноўлена скідка.

Падпісчыкам пры ўнясеньні гадавой падпісной платы да 15-га студзеня 1928 г. будзе выслана з 1-м № часопісі ў якасьці дармавога дадатка кніга „Матар'ялы да пяцігадовага пэрспэкцыйнага пляну народнае гаспадаркі БССР“. 430 стар. цана 1 руб. 50 кап.



Заказ № 1499. У ліку 1500. Галоўлітбел № 717.

1-ая друкарня Бел. Дзярж. Выдавецтва.

ЦЕНТР. ГОСБИБЛИОТЕКА Т.С.С.Р.
Инв. №: 102

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

ПЛУГ
Месячная навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі.

IV год выданьня Люты 1928 г. № 2

# Соцыяльна-эканамічная ўстаноўка крэдытнай дзейнасьці сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту БССР на 1927-28 г.

З узростам рэсурсаў сыстэмы с.-г. крэдыту павялічваецца яе ўплыў на сельскую гаспадарку. Ад правільнага скарыстаньня гэтых рэсурсаў у значнай ступені залежыць разьвіцьцё і перабудова сельскай гаспадаркі.

У сучасны момант больш 22 міл. руб. знаходзіцца ў звароце сыстэмы с.-г. крэдыту БССР, з якіх 4,5 міл. руб. накіраваны на фінансіраваньне с.-г. таваразвароту, а 17,8 міл. руб. укладзены ў сельскую гаспадарку ў якасьці вытворчага крэдыту.

Па крэдытнаму пляну беларускай сыстэмы с.-г. крэдыту на 1927-28 г. прадбачыцца накіраваць на вытворчае крэдытаваньне сельскай гаспадаркі 17,5 міл. руб. і на фінансіраваньне с.-г. таваразвароту каля 6 міл. руб.

Такі значны прыток сродкаў у сыстэму с.-г. крэдыту БССР ускладае на яе абавязак і адказнасьць за мэтазгодны кірунак гэтых рэсурсаў.

Асноўныя задачы сыстэмы с.-г. крэдыту былі вызначаны яшчэ пры яе заснаваньні—4 гады таму назад.

Гэта наступныя задачы:

а) дапамога крэдытам сялянскім гаспадаркам, пераважна бядняцкім, на ўзмацненьне асноўных капіталаў з мэтай іх (гаспадарак) удасканаленьня і пашырэньня;

б) дапамога ім жа ў справе палепшаньня і павялічэньня вырабу прадукцыі і яе рэалізацыі;

в) дапамога пабудове тэхнічных прадпрыемстваў па пераапрацоўцы с.-г. прадуктаў;

г) дапамога перабудове сялянскай гаспадаркі на новыя формы с.-г. вытворчасьці.

Пад такім кірункам сыстэма с.-г. крэдыту і разгортвала паступова сваю дзейнасьць у працягу мінулых гадоў.

Аднак першыя два гады ўвага сыстэмы с.-г. крэдыту была згрупавана, галоўным чынам, на тым, каб аднавіць зруйнованыя войнамі асноўныя капіталы гаспадаркі.

Крэдытаваньне бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на набыцьцё коняй, кароў, с.-г. машын, пабудову будынкаў—вось асноўны кірунак крэдытнай дзейнасьці сыстэмы с.-г. крэдыту ў працягу 1923-1925 г.

З пачатку 1926 г. напрамак крэдытнай дзейнасьці сыстэмы с.-г. крэдыту некалькі ўжо мяняецца.

Асноўныя капіталы сялянскай гаспадаркі былі амаль што адноўлены і нават пашыраны. Трэба было ўжо дапамагчы бядняцка-серадняцкай гаспадарцы з свае, амаль выключна спажывецкае гаспадаркі,

зрабіць таварную гаспадарку. А гэта зьвязана з пераходам гаспадаркі на новыя формы землякарыстаньня, з організацыяй с.-г. рынку.

І таму сыстэма с.-г. крэдыту накіроўвала тады свой шлях на забясьпечаньне крэдытам пераважна мерапрыемстваў па пераходу на шматпольле, на пашырэньне пасеву ільну, на збыт прадуктаў жывёлагадоўлі і г. д.

Зараз жа мы ўваходзім у такую паласу будаўніцтва, калі асноўныя капіталы і прадукцыя вытворчасьці як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы перасягаюць даваенны ўзровень і ва ўсю шырыню стаіць пытаньне аб надданьні нашай гаспадарцы такога кірунку далейшага разьвіцьця, які забясьпечыў бы хутчэйшую перабудову нашага жыцьця на соцыялістычны лад.

*І таму перад сыстэмай с.-г. крэдыту высоўваюцца новыя заданьні.* Гэтыя заданьні выразна вызначаны XV з‘ездам Камуністычнай Партыі.

*Трэба ўзяць сталы курс на ўзмацненьне соцыялістычных элемэнтаў на вёсцы, павесьці дробныя гаспадаркі на вышэйшую эканамічную ступень, згуртаваўшы іх у буйныя калектыўныя гаспадаркі, забясьпечыць гаспадарчы ўздым бядняцкай гаспадарцы, пашырыць вытворчую базу ў сельскай гаспадарцы па вырабу сыравіны для прамысловасьці і экспортных культур, нарыхтаваць індустрыялізацыю і электрафікацыю сельскай гаспадаркі.*

Такія заданьні ўскладаюць пэўныя абавязкі і даюць сталую ўстаноўку крэдытнай дзейнасьці сыстэмы с.-г. крэдыту на шэраг гадоў.

Па-першае—*трэба рашуча і бязупынна ўзмацняць соцыялістычныя галіны сельскай гаспадаркі.* Савецкія, калектыўныя гаспадаркі і іншыя згуртаваньні бядняцка-серадняцкіх гаспадарак павінны быць з усёды ў цэнтры ўвагі ўсіх зьвеньняў сыстэмы с.-г. крэдыту, як вышэйшых, так і ніжэйшых. Дый ня толькі сыстэма с.-г. крэдыту павінна падтрымліваць існуючыя калектыўныя вытворчыя згуртаваньні на вёсцы, а нават працаўнікі сыстэмы с.-г. крэдыту і асабліва нізоўкі павінны выступаць у ролі ініцыятараў утварэньня такіх згуртаваньняў, забясьпечваючых іх разьвіцьцё сталай, правільна організаванай крэдытнай дапамогай.

На кожны квартал, кожны месяц, кожнае зьвяно сыстэмы с.-г. крэдыту павінна распрацоўваць плян крэдытнай дапамогі с.-г. камунам і арцелям, малочным, машынным, мэліорацыйным і ўсякага роду іншым вытворчым аб‘яднаньням сялянства. Заяўкі на крэдыт гэтых організацыяў павінны здавальняцца ў першую чаргу. Разьмер закрэдытаваньня іх павінен быць сьцісла ўвязан з іх вытворча-опэрацыйнымі плянамі.

Па-другое—*пры абслугоўваньні крэдытам паасобных сялянскіх гаспадарак трэба організаваць дастаўку пазычковых капіталаў, выключна бядняцка-серадняцкім гаспадаркам.* Заможныя гаспадаркі, маючыя бязупынныя накапленьні, могуць разьвівацца за рахунак гэтых сваіх уласных накапленьняў і таму дапамога ім з боку крэдытных установаў павінна быць спынена. Дачу крэдытаў гэтым гаспадаркам можа дапушчаць толькі як вынятак—і толькі на патрэбы вырашчваньня сыравіны для прамысловасьці (контракцыйныя крэдыты). Для бядняцкіх гаспадарак крэдыты павінны прадстаўляцца ў першую чаргу і ім трэба даваць амаль выключна доўгатэрміновы крэдыт. Патрэбы ў крэдыце бядняцкіх гаспадарак павінны па мажлівасьці здавальняцца адразу шляхам мерапрыемстваў, якія могуць узьняць гаспадарку. Серадняцкай гаспадарцы павінны быць забясьпечаны патрэбныя ёй крэдыты

для перабудовы свае гаспадаркі, надданьня ёй большай таварнасьці, сувязі яе з каапэрацыйнымі формамі збыту і вытворчасьці.

Па-трэцьце—*сродкі сыстэмы с.-г. крэдыту павінны ісьці пераважна ў тыя галіны сельскай гаспадаркі, якія могуць спрыяць хутчэйшай яе рацыяналізацыі і перабудовы.*

Па крэдпляну Беларускай сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту, ухваленаму ўжо плянавымі органамі Рэспублікі, крэдытныя рэсурсы групуюцца сёлета пераважна на мерапрыемствах па земляўпарадкаваньню, мэліорацыі, машынадастаўцы, травасеяньню, ільну і малочнай справе, як адыгрываючых рашучую ролю ў перабудове сельскай гаспадаркі БССР. На забясьпечаньні крэдытам гэтых мерапрыемстваў павінна быць згрупавана і ўвага ўсіх працаўнікоў сыстэмы с.-г. крэдыту, г. зн. што пералічаныя об'екты павінны ня зыходзіць з вачэй кожнага працаўніка с.-г. крэдытнай сыстэмы і пры недахопе сродкаў, у першую чаргу, належыць накіроўваць сродкі па гэтых прызначэньнях.

Па—чацьвёртае—*трэба пры прасоўваньні крэдыту карыстацца так званым комплексным мэтадам.* Нельга распыляць крэдытныя сродкі на прынцыпе—ўсім і на ўсё па троху, а трэба групаваць сродкі па кожнаму раёну па тэй групе мерапрыемстваў, якія адпавядаюць напрамку разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў даным раёне.

Адсюль вывад—*трэба аддаць больш увагі на вывучэньне дробнага с.-г. раёнаваньня.* Кожны адказны працоўнік Акрсельбанку павінен дасканала вывучыць становішча і кірунак разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў кожным раёне, а працоўнік с.-г. крэдыт. таварыства ўнесьці ў гэта параённае вывучэньне яшчэ свае дасьледаваньні асаблівасьцяў у розных частках раёну. Трэба дасканала ведаць ня толькі глебавыя ўмовы, але і формы і кірунак гаспадаркі ў кожнай вёсцы, у групе вёсак і на падставе гэтага нарыхтаваць крэдытаваньне гэтых месц.

На нарадзе Старшынь Акрсельбанкаў у Менску ў пачатку сьнежаня месяца мінулага году быў орыентыровачна ўхвален такі прыкладны комплексны кірунак для паасобных акруг.

Крэдыты на рабочую жывёлу, с.-г. інвэнтар, земляўпадкаваньне, мэліорацыю, травасеяньне—прызнаны маючымі агульнае значэньне для ўсіх раёнаў. Рэшта-ж крэдытаў павінна выдзяляцца пераважна так: для Аршаншчыны на лён, мінэральнае ўгнаеньне, саматужныя промыслы; для Віцебшчыны—на лён, мінэральнае ўгнаеньне, малочную справу; для Бабруйшчыны—на бульбу, малочную справу, лясныя промыслы; для Гомельшчыны — на садоўніцва, насеньняводзтва малочную справу, саматужныя промыслы; для Магілёўшчыны—на малочную справу, лён і каноплю, мінэральнае ўгнаеньне і насеньняводзтва; для Меншчыны—на малочную справу, на мінэральнае ўгнаеньне, бульбу, лясныя промыслы (у частцы Барысаўшчыны); для Мазыршчыны—на рагатую жывёлу, мясную справу, лясныя і рыбныя промыслы; для Полаччыны—на лён, мінэральнае ўгнаеньне і рыбную гаспадарку.

Гэта першы орыентыровачны вопыт комплеснага крэдытаваньня павінен у будучыне быць удасканалены.

Па-пятае—*улічваючы, што індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі ў БССР пасоўваецца занадта павольна* і што ў гэтай галіне мы значна адстаём ад суседніх з намі Саюзных Рэспублік РСФСР і УССР, крэдытным плянам беларускай сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту прадугледжваецца *сёлета накіраваць на індустрыялізацыю сельскай гаспадаркі 1.525 тыс. руб.*

У мінулым годзе таксама па крэдытнаму пляну Белсельбанку былі вызначаны досыць значныя сродкі на індустрыялізацыю сельскай гаспадаркі, але ў значнай частцы засталіся нескарыстанымі таму, што не знайшлося належных аб'ектаў для крэдытаваньня. Сёлета сыстэма с-г. крэдыту павінна быць у гэтай справе больш актыўнай.

Па-шостае—сёлета крэдытны плян беларускай сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту ўложан такім чынам, што *значна павышаецца ўдзельная вага на доўгатэрміновае крэдытаваньне.* Калі ў мінулым годзе на доўгатэрміновае крэдытаваньне Белсельбанкам было накіравана толькі 52 проц. усіх мэтавых крэдытаў, то сёлета прадбачыцца накіраваць 70 проц. 12 міл. руб.

На доўгатэрміновае крэдытаваньне сёлета накіроўваецца 80% асн. капіталаў Белсельбанку і 60% асноўных капіталаў Акрсельбанку.

Такая перасоўка крэдыту больш адказвае задачы перабудовы сельскай гаспадаркі і забясьпечвае разьвіцьцё бядняцкай гаспадаркі і калектывізацыю сельскай гаспадаркі наогул.

Трэба толькі забясьпечыць, каб гэтыя крэдыты цалкам дасягалі сельскай гаспадаркі, незатрымліваючыся ў ніжэйшых зьвеньнях сыстэмы і траплялі туды своечасова.

Па-сёмае—Па крэдытнаму пляну ўсёй сыстэмы с. г. крэдыту СССР прадбачыцца *накіраваньне ўсіх вытворчых крэдытаў для сельскай гаспадаркі, уключаючы ўсе крэдыты на кантрактацыю сыравінны, праз сыстэму с.-г. крэдыту.* Гэтыя мерапрыемствы павінны стварыць адзінства мэтадаў крэдытаваньня вёскі і даць значны прыток новых рэсурсаў у сыстэму сельска-гаспадарчага крэдыту. На чарзе стаіць пытаньне аб больш сьціслай увязцы вытворчых крэдытаў з крэдытамі па збыту. Ад увязкі гэтых двух форм крэдыту залежыць нормальны грашовы зварот у народнай гаспадарцы і таму сыстэмай сельска-гаспадарчага крэдыту высунута пытаньне перад Дзяржбанкам і Дзяржплянам аб згрупаваньні абедзьвюх гэтых форм крэдытаваньня ў сыстэме сельскагаспадарчага крэдыту.

Па-восьмае—*бярэцца моцны курс на ўзмацненьне асноўных і спэцыяльных капіталаў у сельска-гаспадарчых крэдытных таварыствах.* Крэдытным плянам беларускай сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту прадугледжана накіраваць на гэту патрэбу сёлета 700 тыс. руб.

Гэтае мерапрыемства павінна забясьпечыць утварэньне на вёсцы працаздольных крэдытных організацый і выклікаць прыток туды ўкладаў.

Вось асноўныя рысы соцыяльна-эканамічнай установкі крэдытнай дзейнасьці сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту БССР у сёлетнім годзе.

Аб іх павінны ведаць кожнае сельска-гаспадарчае крэдыднае таварыства, кожная сельска-гаспадарчая арцель, кожнае малочнае, машыннае і іншае таварыства, кожны коопэрацыйны працаўнік, кожны працаўнік вёскі, кожны селянін.

Гэтая ўстаноўка павінна быць абгаворана ў Праўленьні, Савеце кожнага крэдытнага таварыства і на падставе яе распрацаван плян крэдытнай дзейнасьці сельска-гаспадарчага крэдытнага т-ва.

Толькі супольнымі сіламі пры ўзаемным разуменьні усімі працоўнікамі сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту тых задач, якія стаяць зараз перад сыстэмай сельска-гаспадарчага крэдыту, перад народнай гаспадаркай наогул, можна выканаць гэтыя задачы, вытрымаць тую ўстаноўку крэдытнай палітыкі, якая ў агульных рысах тут зазначана.

**Е. Трахімаў.**

---




# 1-ыя курсы часопісі „Плуг“ для сялян-дасьледчыкаў.

## Гутарка 8-ая.

### Апрацоўка глебы.

(*Працяг*)

III.

Калі мы ўспомнім, што ў нас на Беларусі вельмі часта глебавыя ўмовы моцна адрозьніваюцца ня толькі на паасобных палосках аднэй і тэй-жа сялянскай гаспадаркі, але нават, на паасобных частках тэй-жа самай палоскі *), дык зразумеем, што над пытаньнямі апрацоўкі глебы, як і над шэрагам іншых пытаньняў, прыдзецца моцна папрацаваць самому селяніну.

Добра і неабходна ведаць кожнаму земляробу галоўную мэту апрацоўкі глебы, неабходна ведаць яму, якімі шляхамі да гэтай галоўнай мэты, наданьня дробна-глыбкаватае пабудовы глебе, прышла тая ці іншая дасьледчая станцыя, але ня менш важна і зусім неабходна ўстанавіць найлепшую сыстэму апрацоўкі пад азіміну і ярыну для палеткаў кожнай сялянскай гаспадаркі ў тых ці іншых умовах. А хто гэта здолее зрабіць, хто здолее ўстанавіць для кожнай сялянскай гаспадаркі належную сыстэму ўгнаеньня расьлін і г. д.? Толькі сам селянін. Гэта ён і робіць. Нават, закладае (досыць прымітыўныя) палявыя досьледы, прыслухоўваецца да агранома і прабуе тое ці іншае правесьці на сваіх палетках. Зараз, пры агульным уздыме зацікаўленасьці с.-г. дасьледчай справай, кожны перадавы, здольны, больш культурны селянін павінен быць дасьледчыкам. А для гэтага ён павінен пашыраць і паглыбляць свае веды, сваё разуменьне жыцьця расьліны і жыцьця глебы і, пры дапамозе агранома, пад агульным кіраваньнем бліжэйшае дасьледчае станцыі, „ставіць досьлед“ па тых пытаньнях, якія ён сам знаходзіць найбольш цікавымі і важнымі для сваёй гаспадаркі.

Але апрача пытаньняў, якія будзе высоўваць для вырашэньня на сваіх палетках сам селянін-дасьледчык, кожная дасьледчая станцыя, працуючая ў тым ці іншым раёне, зараз ужо высоўвае тыя пытаньні, якія яна лічыць найбольш важнымі і сучаснымі для тэй ці іншай групы сялянскіх гаспадарак свайго раёну.

---

*) Палоскі альбо часткі палосак могуць адрозьнівацца па тыпу глебы, у залежнасьці ад палажэньня той ці іншай часткі (паласы на бугры, на схіле, у нізіне і г. д.); ад суадносін глебы з падглеб'ем, тыпам яго і характарам залýганьня і г. д., ад „культурнасьці“ глебы, што ў значнай ступені, у сваю чаргу, залежыць ад характару выкарыстоўваньня яе ў мінулыя гады і г. д.

Апрача гэтага, з добрай згоды самых сялян, а яшчэ лепей, пры ўвязцы з пытаньнямі, высунутымі самымі сялянамі, трэба будзе сялянам-дасьледчыкам правесьці на сваіх палёх шэраг досьледаў па пытаньнях, якія ўжо больш менш падрыхтованы станцыямі БССР альбо станцыямі сумежных з БССР раёнаў і краін.

Такія пытаньні ў галіне апрацоўкі глебы ўжо намі ў агульных рысах вызначаны ў гэтым артыкуле *) гэта пытаньні сыстэм апрацовак пад азіміну (жыта і пшаніцу) і ярыну (яравое збожжа, бульба, лён і інш.).

Сярод пытаньняў апрацоўкі пад азіміну адзначым наступныя:

I. Сыстэма апрацоўкі занятых і сідэрацыйных папараў:

1) апрацоўка „мяккага“ жніў'я (пасьля выкі з аўсом, угноенага ячменю і г. д.).

2) апрацоўка „цьвёрдага“ жніў'я-канюшынішча.

3) апрацоўка сідэрацыйных (лубін, сэрадэля) папараў.

II. Сыстэма апрацоўкі чыстых папараў: раньняга і позьняга.

Сярод пытаньняў апрацоўкі пад ярыну:

I. Сыстэма апрацоўкі жытнішча пад яравое збожжа, зернавыя бабавыя, пад бульбу і кораньплоды.

II. Сыстэма апрацоўкі бульбянішча.

III. Сыстэма апрацоўкі канюшынішча.

Усе пералічаныя пытаньні лепей было-б праводзіць у рамках таго ці іншага сталага севазвароту, але можна і ня прытрымлівацца гэтага вельмі строга. Так, можна здаволіцца тым, каб пры організацыі досьледу з апрацоўкай, напрыклад, канюшынішча пад жыта, ня менш 5—10 сялян, з палеткамі больш-менш аднолькавымі па тыпу і культурнасьці глебы, правялі-б досьлед ва ўмовах канюшынішча пасьля двухгадовага яго выкарыстоўваньня (запэўна, адначасова вельмі пажадана мець асобную групу і з канюшынішчам пасьля аднаго году выкарыстоўваньня).

Вельмі важна, каб ува ўсіх сялян гэтай групы канюшына была-б падсеяна пад ярыну пасьля больш-менш аднолькава ўгноенай бульбы, каб яна (канюшына) больш-менш аднолькава расла, каб магчыма, было параўнаньне вынікаў досьледаў паміж сабою. Бо ня можна напрыклад, лічыць аднолькавым канюшынішча, якое ўтварылася пры падсеве канюшыны пад ярыну пасьля бульбы з тым, якое ўтварылася, калі канюшына падсявалася пад жыта і г. д.

Гэта ёсьць так званае запатрэбаваньне аднолькавасьці фону, якое таксама можа быць больш ці менш паглыбленым і строгім.

У сувязі з тым, што звычайна вельмі цяжка правесьці ў сялян-дасьледчыкаў больш-менш дасканалае папераджальнае дасьледаваньне аднолькавасьці адведзенай пад досьлед плошчы, ды і плошча (якая „на вока“ больш-менш прыгодна для досьледу), звычайна, малая,— прыходзіцца часьцей усяго пры ўстанаўленьні мэтодыкі досьледаў на сялянскіх палетках затрымлівацца на невялікіх (100 кв. мэтр.) дзялянках з 3-х—4-х разовымі паўтарэньнямі аднолькавых дзялянак.

Гэтыя ўмовы, а таксама цяжкасьць для сялян праводзіць больш-менш дасканалы досьлед з адбіўкай вялікага ліку дзялянак і г. д. прымушаюць, звычайна, абмяжоўвацца, па магчымасьці, простымі, кароткімі схэмамі досьледу **).

*) „Плуг“ № 1 1928 г., Першыя курсы сялян-дасьледчыкаў, гутарка 5.

**) Схэмай досьледу завецца рад пытаньняў, якія ставіць дасьледчык для вырашэньня галоўнай тэмы досьледу.

Пастараемся, у заключэньне, даць для прыкладу такія кароткія схэмы для ўсіх тых пытаньняў апрацоўкі, якія былі намі пералічаны вышэй, з тым, каб іх можна было ажыцьцявіць больш-менш звычайнымі сялянскімі прыладамі і ў звычайных сялянскіх умовах.

## Пытаньні апрацоўкі занятых папараў.

### I. Апрацоўка „мяккае“ пожні:

Схэма досьледу:

1) Звычайная апрацоўка.
2) Ворыва на звычайную глыбіню зараз-жа пасьля прыборкі занімаючай папар расьліны, баранаваньне зараз-жа пасьля ворыва, двойка.
3) Лузганьне зараз-жа пасьля прыборкі, баранаваньне ворыва за тыдзень да сяўбы.

### II. Апрацоўка двухгадовага канюшынішча.

1) Звычайная.
2) Лузганьне пасьля прыборкі канюшыны, і ворыва за тыдзень да сяўбы *).
3) Такое-ж лузганьне і ворыва зараз-жа пасьля яго, мелкая двойка перад сяўбой.

### III. Апрацоўка сідэрацыйнага лубінавага папару з заворваньнем лубіну **).

1) Звычайнае завораваньне.
2) Больш глыбокае завораваньне.
3) Тое-ж самае, але з баранаваньнем зараз-жа пасьля завораваньня.

### IV. Апрацоўка раньняга папару:

1) Раньняе ў траўні ворыва, двойка і траеньне.
2) Раньняе ворыва і двойка.
3) Раньняе лузганьне, ворыва ўлетку і двойка.

### V. Апрацоўка позьняга папару.

1) Звычайная.
2) З лузганьнем за тыдзень перад першым ворывам.
3) З веснавым лузганьнем.

### VI. Апрацоўка жытнішча пад ярыну:

1) Звычайная.
2) Лузганьне зараз-жа пасьля прыборкі, асеньняе ворыва.
3) Тое-ж лузганьне і веснавое ворыва.
4) Тое-ж лузганьне, асеньняе і веснавое ворыва.

### VII. Апрацоўка бульбянішча пад ярыну.

1) Звычайнае.
2) мелкае веснавое ворыва.
3) больш глыбокае, чым звычайнае ворыва ўвесну.

---

*) Адна група дасьледчыкаў можа лузгаць пружыноўкай, другая будзе замест лузганьня мелка араць плугам, а трэцяя можа здолее параўнаць абодвы тыпы лузганьня.

**) Завораваньне ў ва ўсіх гаспадароў групы павінна быць зроблена прыблізна ў аднолькавы тэрмін да сяўбы азіміны, пры аднолькавай стадыі разьвіцьця лубіну (напрыклад, пры канцы красаваньня).

## VIII. Апрацоўка канюшынішча пад ярыну.

1) Звычайнае.
2) Лузганьне пасьля прыборкі, асеньняе і веснавое ворыва.
3) Тое-ж лузганьне і асеньняе ворыва.
4) Тое-ж лузганьне і веснавое ворыва.
5) Тое-ж лузганьне, праз тыдзень ворыва і веснавое ворыва.

У апошнім вопыце варта было-б параўнаць розныя тыпы лузганьня: чатырохлямешнікам, пружыноўкай, і звычайным плугам.

**Усе гэтыя схэмы досыць умоўныя. Вельмі важна ў часе нарад з сялянамі-дасьледчыкамі іх выправіць, дапоўніць і г. д.**

Такім чынам, кожная нават прсстая схэма (пры трохразовай паўторнасьці кожнай дзялянкі, якая тым ці іншым адрозьніваецца ад іншых), будзе патрабаваць для сваяго ажыцьцяўленьня ня менш 9 дзялянак на паасобным дасьледчым вучастку *).

Адбіўка іх, правядзеньне досьледу, прыборка кожнай дзялянкі паасобку,—усё гэта, як кажуць сяляне „марока“. І толькі добра разумеючы ўсю неабходнасьць справы, досыць культурны селянін-дасьледчык ня спужаецца гэтай марокі і з вялікай ахвотай старанна будзе выконваць усё, што патрэбна.

Але навокал такога выдатнага селяніна-дасьледчыка можа гуртавацца багата сялян-дасьледчыкаў, якія змогуць альбо пажадаюць да справы падыйсьці значна прасьцей, прымітыўней.

Мне здаецца, что вельмі важна з'арганізаваць і такіх дасьледчыкаў пры дапамозе селяніна-дасьледчыка-цэнтравіка, альбо перадавіка.



Плуг тыпа „Сакка“ з дзёрназьнімам.

Досьлед селяніна-цэнтравіка будзе больш наяўным, калі яго суседзі сваімі дробнымі досьледамі ўдасканаляць вынікі яго працы.

Зусім зразумела, што тэмы менш дасканалых досьледаў павінны быць узгоджаны з тэмамі адпаведных дасьледчыкаў цэнтравікоў, але схэмы павінны быць значна прасьцейшымі—ня больш двух адрозьніваючыхся паміж сабой дзялянак, пры двухразовым паўтарэньні. Напрыклад, пры вывучэньні апрацоўкі канюшынішча пад ярыну у аднэй з груп сялян-дасьледчыкаў, абкружаючых цэнтравіка, павінна быць такая схэма:

1. Звычайная апрацоўка.
2. Лузганьне і веснавое ворыва.

---

*) Магчыма абмяжоўвацца двумя пытаньнямі ў схэме, тады, пры трохразовай паўторнасьці, атрымаем толькі 6 дзялянак.

У другой групе схэма можа быць ужо такой:
1. Звычайная апрацоўка.
2. Лузганьне, праз тыдзень ворыва і веснавое ворыва.

Тэхніка пастаноўкі, правядзеньня і вучоту досьледаў, абкружаючых цэнтравіка сялян-дасьледчыкаў павінна быць таксама значна больш простаю. Напрыклад, замест адбіваньня паасобных дзялянак можна задаволіцца чаргаваньнем на дасьледчым вучастку аднолькавых па шырыні і даўжыні палос, апрацованых па-рознаму. Вучот-жа ўраджаю кожнай паласы можна зрабіць па пробных плашчадках, выжынаючы, напрыклад, у розных тыповых („сярэдніх") па агульнаму выгляду мясцох кожнай з гэтых палос па тры квадратовых сажні, з тым, каб кожная „сажань" была потым абмалочана і зважана паасобку. Магчыма, калі палосы адбіты старанна, задавальняцца звычайным сялянскім спосабам вучоту: лічэньнем коп альбо снапоў ураджаю з кожнай паласы і абмалотам пробнай „сярэдняй" капы (лепш двух паасобку) з кожнай паласы таксама паасобку і г. д.


Многалямешнік-лузгальнік.

Вельмі важна адзначаць ўраджай і „на вока"; напрыклад, будзе заўважана і адзначана гаспадаром, што жыта на палосках з лузганьнем было вышэйшае, з буйнымі і больш цяжкімі каласамі і г. д.

Такая організацыя сялян-дасьледчыкаў будзе сапраўды масавай і не дарагой.

Яна дапаможа значна ўдасканаліць звычайны сялянскі досьлед, які амаль што кожны з сялян штогодна выпадкова альбо наўмысна зьдзейсьнівае на сваіх палетках і які, на працягу стагодзьдзяў, дазволіў беларускаму селяніну выпрацаваць сваю сялянскую тэхніку ральніцтва, вельмі часта дасканала адпавядаючую як прыродным умовам, так і гаспадарчым магчымасьцям.


3-ох звенная барана „зіг-заг".

Прапануемая мною організацыя сялянскіх досьледаў, **асабліва, калі будуць выяўлены і ўлічаны жаданьні, разуменьні і „падыходы" саміх сялян**, зьявіцца організацыяй калектыўнай творчасьці сялян у галіне апрацоўкі (таксама трэба організаваць справу і наогул па пытаньнях ральніцтва), дасьць новы таўчок гэтай творчасьці; а гэта вельмі важна: **Без актыўнасьці, бяз творчасьці мас мы можам пагубіць кожную найпатрэбнейшую справу.**

Такая організацыя творчасьці мас, пры дапамозе друку, скора будзе мабілізаваць атрыманыя сялянамі вынікі, і ня прыдзецца дзесяцігодзьдзямі чакаць пажаданых зьмен.

Адным словам, пачнецца вялікі дасьледчы, організаваны рух, утворыцца вялікі ўздым індывідуальнае і колектыўнае творчасьці сялян, а аграном і дасьледчыя станцыі перастануць „боўтацца ў паветры".

Праф. С. В. Скандракоў.

# Якія і як ставіць досьледы ў садзе.

Гутарка 9-ая.

Пладовыя дрэвы ў нашых умовах нармальна дасягаюць 80—100 гадовай старасьці (яблыні, ігрушы). Гэтая асобнась пладовых парод павінна зьвярнуць увагу культыватара. Умоўна можна падзяліць агульны лік пладовых дрэў у садзе (па сартох) у залежнасьць ад узросту:

I узрост—ад 3-х да 10 г.
II „ —„ 10 „ 25 „
III „ —„ 25 „ 60 „

У першы пэрыяд ад пасадкі (звычайна бярэцца трохгодка) да 10 г. мы зацікаўлены, каб як мага даць шпаркае разьвіцьцё пасаджаным прышчэпам. Наша мэта дапамагчы ўзмацніцца штамбу, шпарка раскінуцца каронам, таксама і карэньням. У першыя гады гадоўлі саду мы не павінны вымагаць, каб дрэвы красавалі і давалі ўраджай; таму завязі своечасова здымаюцца (для антонаўкі да 6—8 г. пасьля пасадкі). У гэты пэрыяд ужываюцца пераважна: гной, торф, салетра і г. д.— галоўным чынам, азотныя ўгнаеньні. Наадварот, фосфарныя парашкі, попел не павінны ўжывацца ў першыя 10 год пасьля пасадкі, бо гэтыя ўгнаеньні прымушаюць несвоечасова красаваць і пладанасіць дрэвы. Малады організм вымагае ў першыя гады больш угнаеньня, больш догляду і ўменьня вывясьці карону. Сад, пакінуты бяз догляду першыя 8—10 год, у будучыне цяжка апраўляецца і карона назаўсёды застаецца ненармальнай. Трэба памятаць, што заўсёды досьлед і нагляданьня робяцца за адпаведнымі сартамі: антонаўкай, пэпінкай, літоўскай і г. д.

Кожны сорт мае свае асаблівасьці росту, развіцьця карон і г. д.; іх трэба дасканальна вывучаць, значыцца і тэхнічны догляд павінен прымаць пад увагу гэтыя асаблівасьці.

У другі пэрыяд ад 10 да 25 г. пладовае дрэва шпарка разьвіваецца і ўжо дае паступова значныя ўраджаі. Калі ў 10—12 гадоў карона добра разгарнулася і наогул дрэвы паказваюць шпаркі рост, дык на 2-3 гады ўнясеньне азотных угнаеньняў затрымліваюць і карысна будзе ўнасіць фосфарныя парашкі: тамасаўку, супэрфосфат, фосфарытную муку, якія вельмі спрыяюць красаваньню і атрыманьню добрых ураджаяў. У гэты пэрыяд мае значэньне ў якасьці штучнага ўгнаеньня: калійныя парашкі, вапна, попел (лепш бярозавы, асінавы).

У якасьці азотнага ўгнаеньня ў нашых умовах мае значэньне культура лубіну, сэрадэлі, якія пад восень трэба заворваць. Цікава паставіць досьледы з заворваньнем пад вясну сэрадэлі. Наогул высеў улетку шэрагу расьлін у садзе паміж дрэў з разьлікам заворваць вясной вельмі пасьпяхова ўжываецца ў Паўночнай Амэрыцы. У гэты пэрыяд трэба сачыць за роўнавагай росту і ўтварэньнем пладовых галінак, што дасягаецца чарговым унясеньнем азотных угнаеньняў і парашкоў: фосфарных, калійных і г. д.

У трэцьці пэрыяд ад 25 да 60 гадоў і звыш рост пачынае паступова затрымлівацца, які пад 50—60 год спыняецца. Гэта знача адміраньне галінак пасьля 60 гадоў перавышае прырост новых. Пры добрым доглядзе, на добрых глебах, ва ўмовах значнай адлегласьці 10—12 мэтр. дрэва ад дрэва, антонаўка, напрыклад, у 50 гадоў можа даць ураджай у 30 пуд. (што мы бачылі ў садох Слуцку ў 1927 г.). У гэты пэрыяд

пераважнае значэньне маюць штучныя ўгнаеньні: фосфарныя, калійныя, вапна, попел, але адзін раз у 3 гады патрэбна ўнасіць гной, начное „золата“.

Дасьледчык-садавод павінен добра ведаць якім парадкам разьвіваюцца карэньні пладовых дрэў у шыркі і ў глыбіню. Праз 8—10 год карэньні ўжо выходзяць за межы шырыні кароны. Праз гэта, напрыклад, калі маем дрэва ўзросту 15—25 г., няма ніякага сэнсу ўносіць угнаеньня блізка 70 см. (1 арш.) каля штамбу, а наадварот, адступіўшы 70 см. альбо 1 мэтр. ад штамбу (узараўшы плошчу сада), пачаць уносіць угнаеньне.

Коратка пералічым некаторыя тэмы для досьледчай працы па садоўніцтву.

1) Спосабы падрыхтоўкі глебы пад сад (папярэдняя культура бульбы, лубіну, сэрадэлі і г. д.

2) Спосабы пасадкі прышчэп у садох (ямным, без ямным спосабам)

3) Угнаеньне маладых дрэў расчынам гнаёвай жыжыкі.

4) Угнаеньне торфам, салетрай маладых дрэў.

5) Уплыў прамежных культур (бульбы, караньплодаў, гароху) на разьвіцьцё саду ў першыя 10—15 г.

6) Спосабы фармаваньня карон (у 3-4 галіны) у антонаўкі, штрэйфлінгу пэпінкі літоўскай і г. д. у першыя 10 год узросту.

7) Угнаеньне дарослых садоў тамасаўкай, фосфарытнай мукой, попелам.

8) Угнаеньне садоў лубінам, сэрадэлай. Спосабу пасеву ўлетку сэрадэлі, пад восень жыта для заворваньня веснавой парой у садзе.

9) Падлік ураджаю пладоў (аднаго сорту і ўзросту), з дрэў з густымі каронамі (5—7 галін) у параўнаньні з дрэвамі, якія маюць 3-4 асноўных галін (у антонаўцы).

10) Пара красаваньня пладовых дрэў, у асаблівасьці сартоў: антонаўкі, пэпінкі, штрэйфлінгу, белы наліў (ва ўмовах Мазыршчыны, Случчыны, Бабруйшчыны, вельмі пажадана сачыць за сартамі: бойкэн штэцін чырвоны, шклянкаўка).

Праф. **М. Бурштэйн.**

---

# Значэньне рахунковых запісаў для сялянскіх гаспадарак і як іх весьці.

Гутарка 10-ая.

Кожная гаспадарчая дзейнасьць вядзецца для таго, каб у выніку яе атрымаць вядомую карысьць. Чым большы палучаецца прыбытак, тым лепш вядзецца гаспадарка. Значыць кожны гаспадар зацікаўлен у тым, каб лепш гаспадарыць. Пры гаспадараньні заўсёды раней робяцца страты: працы, прадуктаў, матэрыялаў, грошай і толькі тады атрымоўваецца прыход. Перавышэньне прыходу над стратамі і дае зыск. Адсюль ясна, што каб ведаць зыск, раней патрэбна падлічыць усе страты і ўсе прыбыткі. Але пры гаспадараваньні робяцца страты і атрымоўваюцца прыбыткі на працягу цэлага году. Памятаць усё

гэта немажліва, вось чаму і патрэбна сыстэматычна вясьці запісы ўсіх страт і прыбыткаў—вясьці так званыя, *рахункoвыя запісы* па гаспадарцы.

Але мала таго, што ў канцы году па запісах можна вылічыць прыбытак ад усёй гаспадаркі. З боку перабудовы гаспадаркі патрэбна ведаць, якая галіна, расьліна альбо від жывёлы ў параўнаньні з іншымі дае большы зыск. Ведаючы гэта мажліва менш прыбытковыя галіны зьнішчыць і замяняць іх больш прыбытковымі. Значыць, неабходна рахункoвыя запісы вясьці такім чынам, каб па іх было можна высьвятліць страты і прыбыткі паасобку па кожнай галіне гаспадаркі. Адсюль ясна, што каб атрымаць належныя вынікі ад вядзеньня рахунковых запісаў, іх патрэбна вясьці сыстэматычна і досыць падрабязна на працягу году.

Найлепшым тэрмінам для пачатку вядзеньня рахунковых запісаў зьяўляецца вясна—звычайна бярэцца 1-е красавіка. На гэты дзень патрэбна зрабіць опісь і ацэнку ўсіх сродкаў вытворчасьці, якія існуюць у гаспадарцы: 1) будынкаў, 2) буйнага мёртвага інвэнтару, 3) дробнага мёртвага інвэнтару, 4) жывога інвэнтару, 5) запасаў прадуктаў і матэрыялаў і 6) грошай. Калі зрабіць гэтае-ж самае ў канцы году на гэты-ж самы тэрмін, дык можна ўбачыць, на колькі пабагацела, ці пабяднела гаспадарка за год; дзеля гэтага толькі па опісам патрэбна падсумаваць кошт усіх сродкаў вытворчасьці і ад большай лічбы адняць меншую. Опісь робіцца па наступнай форме:

| Назва будынкаў, мёртвага і жывога інвэнтару (кожнай адзінкі паасобку). Пералічэньне ўсіх прадуктаў і матэрыялаў (у пуд. альбо ў іншых мерах) і грошай | К пачатку году | | | К канцу году | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік адзінак (пуд. і інш.) | Кошт | | Лік адзінак (пуд. і інш.) | Кошт | | |
| | | Руб. | К. | | Руб. | К. | |
| Хата . . . . . . . і г. д. па будынках | 1 | 350 | — | 1 | 330 | — | |
| Гумно . . . . . . . і г. д. па будынках | 1 | 150 | — | 1 | 200 | — | Капіт. рэмонт |
| Конь . . . . . . . і г. д. па жывёле | 1 | 100 | — | 1 | 100 | — | |
| Плуг . . . . . . . і г. д. па прыладах | 1 | 9 | — | 1 | 8 | 50 | |
| Жытняе мукі . . . . . . і г. д. па прадуктах | 18 п. | 27 | — | 25 п. | 37 | 50 | |
| Налічных грошай . . . . | — | 25 | — | — | 23 | 75 | |
| Разам . . . . | — | 661 | — | — | 699 | 75 | |

Па гэтай форме можна бачыць вынік гаспадараньня для самой гаспадаркі (у нашым выпадку гаспадарка ўзмацнілася на 699,75 –661=38 руб. 75 кап.), але якую карысьць атрымаў сам гаспадар і ад чаго гэта залежала, па паданай опісі няма магчымасьці вы-

сьвятліць. Каб гэтага дасягнуць, неабходна вясьці запісы яшчэ па трох формах:

| Месяц май, чысло 16, дзень пятніца. | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Хто працаваў (імя) | Што рабіў | Для якой культуры (расьліны) альбо від жывёлы | Страчана гадзін | | Колькі зроблена (узарана, засеяна, скошана і г. д.) | Увага |
| | | | сваіх | конск. | | |
| Гаспадар Янка | Араў | Пад бульбу | 6 | 6 | Узараў 1/4 дз. | Не дaараў, бо пачаўся дождж. |
| Гаспадыня Ганна | Даіла | Кароў | 1/2 | — | Падаіла 2 каровы 2 разы | |

і гэтак далей, пералічаючы ўсе члены сям'і, найманыя і ўсе працы, якія яны выконвалі на працягу гэтага дню і так кожны дзень.

Прыход і расход прадуктаў і матэрыялу (запісваецца за тыдзень).

| За тыдзень ад 8 лістапада па 15 лістапада | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Прыход | | | | Расход | | | |
| Адкуль паступіла | Што паступіла | Колькі | | Куды і на што пайшло | Што расходавана | Колькі | |
| | | пуд. | фун. | | | пуд. | фун. |
| Ад абмалоту | Аўса | 30 | — | Сям'і на харчаваньне | Жытняе мукі | 1 | 20 |
| Ад буйнай рагат. жывёлы | Малака | 1 | 10 | ,, | Малака | 1 | 10 |

і гэтак далей прылічваюцца ўсе прыходы і расходы за тыдзень і далей за ўсе тыдні.

Касавая кніжка—прыход і расход грошай (запісваецца абавязкова ў той дзень альбо на другі раніцаю, калі ўтворана).

| Прыход | | | | | | | | Расход | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Месяц | Чысло | За што атрымана | Колькі прадана | | Каму прададзена (коопэр. сел.) | Атрымана грошай | | Месяц | Чысло | За што заплачана | Колькі куплена | | У каго куплена (кооп. сел.) | Заплачана грошай | |
| | | | п. | ф. | | Р. | К. | | | | п. | ф. | | Р. | К. |
| Красавік | 1 | Было наличнымі | — | — | — | 7 | 25 | Красавік | 3 | Газу | — | 5 | у коопэр. | — | 33 |
| ,, | 14 | За бульбу | 5 | — | селян. | 1 | 50 | ,, | 10 | За хустку | 1 шт. | | у ганд. | 1 | 20 |

і гэтак далей усе расходы і прыходы паасобку на працягу году.

Меўшы запісы па пералічаным формам за цэлы год можна вылічыць прыбытак ад любой галіны гаспадаркі. Напрыклад, возьмем буйную рагатую жывёлу. У тэй гаспадарцы, якую мы бярэм і якая

вяла рахунковыя запісы, відаць, што ў гаспадарцы было дзьве каровы. Зрабіўшы з запісаў выбаркі страт і прыбыткаў на гэту галіну, можна бачыць наступнае:

| | |
|---|---|
| 1. Атрымана малака 130 п. па 1 р. 10 к. | 143 р. — |
| 2. Прададзена цялят 2-е па 6 р. — | 12 „ — |
| 3. Адна маладая карова павялічылася к канцу году ў цане на | 27 „ — |
| 4. Гною ад кароў 15 вазоў па 50 кап. | 7 „ 50 к. |
| Разам прыходу | 189 р. 50 к. |
| На кароў страчана: | |
| 1. Сена 80 п. па 30 к. | 24 р. — |
| 2. Саломы яравой 120 п. па 25 к. | 30 „ — |
| 3. Бульбы 40 п. па 25 к. | 10 „ — |
| 4. Аўсянай мукі 3 п. па 1 р. 05 к. | 3 „ 15 к. |
| 5. У падсьціл саломы жытняе 80 п. па 15 к. | 12 „ — |
| 6. Малака цялятам 6 п. па 1 р. 10 к. | 6 „ 60 „ |
| 7. Заплачана за абгул кароў | 1 „ 20 „ |
| 8. Заплачана пастуху аўса $2^2/_2$ п. па 95 к. | 2 „ 38 „ |
| 9. Хлеў за год патаньнеў | 5 „ — |
| 10. Старая карова зьменшылася ў цане | 8 „ — |
| 11. Затрачана працы-дзён 97 па 60 к. | 58 „ 20 „ |
| 12. Іншыя страты (налог, страхоўка) | 8 „ 70 „ |
| Разам расходу | 169 р. 23 к. |

Гэтакім чынам чысты прыбытак ад буйнай рагатай жывёлы равен (189,50—169,23)—20 р. 27 к., а ўсяго гэты селянін у памянутай галіне зарабіў (58,20+20,26)—78 р. 47 к.

Зьмены кошту кароў і расходы на хлеў былі ўзяты з запісу сродкаў вытворчасьці, прыход і расход грошай—з касавай кніжкі, прыход і расход прадуктаў—з прадуктава-матэрыяльнай кнігі і лік дзён-працы з дзёньніка працы.

Дзеля таго, каб дапамагчы сялянам завесьці рахунковыя запісы Эканамічны Аддзел Навукова-Дасьледчага Інстытуту пералічаныя чатыры формы ўклаў у сшыткі, якія бясплатна можна атрымаць у Інстытуце. Акрамя гэтага Аддзел бярэ на сабе абавязак інструктаваньня сялян-рахункаводаў. Прымаючы пад увагу, што наколькі простым зьяўляецца само вядзеньне запісаў, пастолькі складаная іх канчатковая апрацоўка—розныя выбаркі і сводка, якія і патрабуюць шмат часу. Канчатковую ацрацоўку рахунковых сялянскіх запісаў таксама робіць Эканамічны Аддзел, куды можна іх для гэтага перасылаць. Вынікі апрацоўкі па кожнай гаспадарцы з неабходнымі тлумачэньнямі высылаюцца гаспадару для азнаямленьня і скарыстаньня пры перабудове сваёй гаспадаркі.

У заключэньне трэба адзначыць, што самі сяляне ўжо значна пачалі цікавіцца справай рахунковых запісаў, аб чым сьведчыць тое, што каля 70 гаспадароў у мінулым годзе ўжо іх вялі. Ёсьць надзея, што ў гэтым годзе лік іх павялічыцца, бо Аддзелам атрымана шмат лістоў з запрашэньнем выслаць сшыткі. Таму можна выказаць думку, што поруч з перабудовай на больш інтэнсыўны і таварны лад сялянскай гаспадаркі, будзе расьці цікавасьць сялян да справы вучоту яе вытворчасьці і зыскоўнасьці, на падставе чаго больш пэўна і без памылак будзе пашырацца яе перабудова.

Б. Бойка.

# Палявая гаспадарка

## Захоўваньне гною.

Вялікая колькасьць бедных пяшчаных глебаў на Беларусі, адсутнасьць угнаеньня затрымоўвае разьвіцьцё шматпольля, травасеяньня, пасеву караньплодаў і клубняплодаў, якія болей за ўсё спрыяюць хуткаму павялічэньню ўраджайнасьці і агульнай даходнасьці нашай сельскай гаспадаркі. Адным угнаеньнем, пакуль мы яшчэ не навучыліся шырока ўжываць зялёнае лубінавае ўгнаеньне, тарфяное і мінэральнае, служыць гной.

Але, на вялікі жаль, усюды, ва ўсіх нашых гаспадарках адчуваецца вялікі недахват гною. Такое кепскае становішча з недахопам гнаявога ўгнаеньня павінна падштурхнуць нашых гаспадароў прыняць усе меры да большага накапленьня гною, а таксама правільнага яго захоўваньня і скарыстаньня.

Угнойваючая сіла гною заключаецца ня толькі ў колькасьці яго, але і ў якасьці. Якасьць гною залежыць ад цэлага шэрагу прычын: разнароднасьці жывёлы, корму і захоўваньня гною.

Адзін і той-жа гной у залежнасьці ад захоўваньня губляе самую дарагую і каштоўную ўгнойваючую азоцістую частку (салетру) ад 5 да 25 проц. і больш. Урэшце, няправільным захоўваньнем, калі ў гнаі заводзяцца грыбы, можна сапсаваць гной да таго, што ён ня будзе мець ніякай угнойваючай сілы.

Такое становішча павінна прымусіць нашых гаспадароў да захоўваньня гною з вялікай уважлівасьцю і асьцярожнасьцю.

Пытаньне правільнага захоўваньня гною заключаецца ў тым, каб ад моманту атрыманьня і да яго ўжываньня гной пасьпеў перапрэць бяз страты сваёй угнойваючай сілы. Для гэтага перш за ўсё трэба адказаць на пытаньне аб тым, у якім становішчы лепей заворваць гной.

Самае лепшае становішча гною, пры якім ён павінен закладацца ў глебу, зьяўляецца напалову перапрэўшае. Такі гной бывае досыць вільготны, усе часткі яго ўжо пачынаюць распадацца. У такім гнаі ёсьць вялікая колькасьць бактэрый, якія спрыяюць перагніваньню гною. Заворваны ў зямлю такі гной вельмі хутка перапраўляе і добра дзейнічае на паляпшэньне глебы, ператварае яе з пылавата-рассыпнай у дробна-камкаватую.

Добра таксама дзейнічае на паляпшэньне якасьці глебы і добра перапрэўшы гной. Сьвежа-саломісты гной дае менш прыбаўкі ўраджаю, асабліва калі такі гной укладваецца ў зямлю незадоўга да пасеву.

Час, які трэба для падрыхтоўкі гною да напалову перапрэўшага становішча пры захоўваньні яго ў кучах на паветры,—гэта 3-4 тыдні. Таму ў гэты-ж час ён павінен быць заворан. Калі-ж ён ня можа быць так хутка заворан, то лепшым спосабам захоўваньня гною будзе захоўваньне пад жывёлаю ў хлявох.

Ведаючы, што самым лепшым становішчам гною пры ўнясеньні яго ў глебу будзе напалову перапрэўшае (з самай нязначнаю стратай яго ўгнойваючых матэрый), трэба ведаць тыя ўмовы, якія спрыяюць гэтаму становішчу і доброякаснасьці.

Добраякаснасьць гною шмат будзе залежыць ад ужываньня належнай колькасьці падсьцілкі. Пры недахватцы падсьцілкі жывёла абруджваецца, хварэе, гною атрымоўваецца мала і атрымоўваецца ён кепскай якасьці. Кепскім ён атрымоўваецца ад таго, што ня можа правільна раскладацца, бо ў безсаломістыя калавыя масы кепска праходзіць паветра. З прычыны гэтага шмат губляецца каштоўнай угнойваючай часткі гною—азоту.

Пры вялікай колькасьці падсьцілкі атрымоўваюцца таксама няспрыяючыя ўмовы для раскладаньня. У сухім гнаі адбіваецца вялікая страта каштоўнай угнойваючай часткі гною—азота, праз ўлятучваньне газа аміяка, з якога ўтвараецца азот.

Гэты газ аміяк атрымоўваецца ад выпарваньня жыжкавымі часткамі гною. Апрача гэтага, у сухім гнаі зьяўляецца плесень і грыбы, якія забіраюць з яго спажыўныя сокі і пераплетаюць гной сваімі корневымі ніткамі, якія называюцца грыбніцай. Ад гэтага гной цяжка разьбіваецца па полі, з прычыны чаго якасьць гною вельмі паніжаецца.

Таму трэба старацца, каб падсьцілкі было заўсёды даволі. Але з прычыны таго, што ў падсьцілку ў нас ўжываецца адна салома, якой бывае мала, дык трэба ўжываць торф, які добра забірае гнаёвую жыжку і тым памяншае страты, павялічвае колькасьць гною і збаўляе жывёлу ад гразі і хваробы.

Для таго, каб гной роўна раскладаўся і ня траціў сваіх угнойваючых матэрый, трэба кал роўна перамешваць з падсьцілкаю. Без падсьцілкі цьвёрдыя грудкі неправільна і марудна раскладаюцца і многа трацяць каштоўных матэрый. Нават тады, калі яны заворaны ў глебу, гэтыя грудкі і там раскладаюцца марудна і прыносяць мала карысьці.

Салома спрыяе правядзеньню ў сярэдзіну гэтых грудак паветра, ад чаго яны хутка раскладаюцца без усялякіх страт.

Дзе-б гной не захоўваўся, ён абавязкова павінен быць да вядомай ступені ўплатнён, бо пры пухкім становішчы і нявыстарчаючым уплатненьні гною, хутка пачынаецца разьвіцьцё грыбоў і плесені і, з прычыны вялікага праветрываньня, адбываецца вялікая страта аміяка і г. д. Дзеля таго гной павінен захоўвацца ў такім уплатнёным становішчы, каб у яго магло ўмеранна праходзіць паветра.

Вельмі важна для правільнага раскладаньня, каб у гнаі хапала вільгаці. У сухім гнаі адбываюцца такія-ж вялікія страты ўгнойваючых матэрый, як і ў саломістым гнаі, г. з. утварэньне плесені, грыбоў і г. д.

Вось грунтоўныя ўмовы правільнага захоўваньня гною, якія павінны быць пры ўсялякім выпадку захоўваньня.

Апрача захоўваньня гною пад жывёлаю ў хлявох, можна захоўваць яго і ў асобных мясцох, куды вывозіцца штодзённа вычышчаны з хлявоў гной. Гэты спосаб захоўваньня дае больш клапот і даражэй абыходзіцца, чым захоўваньне гною пад жывёлаю. Захоўваньне гною ў асобна адведзеных для гэтага мясцох дае вялікія страты і таму яно ўжываецца вельмі рэдка.

Але ўсё-ж, калі, па некаторым прычынам, прыходзіцца штодзённа чысьціць хлявы і захоўваць гной асобна, дык тут патрэбна прытрымоўвацца наступных правілаў:

1) Падлога ў хлявох, дзе трымаецца жывёла, павінна быць шчыльнай, каб праз яе не працякла гнаёвая жыжка, якая, працякаючы, прападае ні за што. Для папераджэньня гэтага можна ўжываць жырную гліну таўшчынёю ў 4-5 вярш., якую трэба добра ўтоптаць, уплатніць.

2) Падлога павінна быць крыху нахіленай да асобых жалабкоў, па якім павінна сьцякаць жыжка. Гэтыя жалабкі праводзяць жыжку ва ўкапаныя ў зямлю кадкі, якія ўкапваюцца ў канцы хлява абавязкова каля месца, дзе захоўваецца гной.

3) Хлявы павінны быць цёплымі, каб у іх не замярзаў ні гной, ні жыжка.

Месца для гноішча трэба выбіраць больш высокае, каб да яго не дасягала вясеньняя вада, або яно павінна быць абкопана канаваю для адводу вады. Шырыня гноішча павінна быць ня больш 3 арш. Ніякіх павецей над гноішчам ня робіцца, бо газы, якія выпарваюцца з гною, хутка згнояць стрэху, а дождж шкоды гною ня прыносіць.

Пажадана гноішча або абсаджваць дрэвамі, або ўтвараць яго ў зацішным месцы, каб пазбавіцца высушваньня гною сонцам і абдуваньня ветрам, ад чаго траціцца аміяк, з якога ўтвараецца салетра.

Дно гноішча абавязкова павінна быць зроблена цьвёрдым і непрапушчаючым гнаёвай жыжкі, бо пры страце жыжкі гной будзе неправільна раскладацца і шмат губляць угнойваючых матэрый.

Каб пазбавіцца гэтага, гноішча трэба рабіць з жырнай гліны, якую трэба добра ўплатніць, з такім разьлікам, каб пласт яе быў ня менш 5 вярш. Дно гноішча лепш углыбіць на поўаршына ў зямлю. У адным з канцоў гноішча ўтвараецца драўляная кадка для сьцяканьня гнаёвай жыжкі, для чаго дно гноішча робіцца з усіх бакоў нахіленым у той бок, дзе знаходзіцца кадка для жыжкі.

Гной з хлявоў штодзённа выводзіцца на гэтае гноішча, добра перамешваецца, каб ён быў аднолькавай якасьці і добра ўплатняецца нагамі, каб добра перапраўаў. Гной у гноішчы павінен заўсёды трымацца ў вільготным становішчы, для чаго гной трэба паліваць гнаёвай жыжкаю з кадкі. Калі-ж жыжкі не хапае, дык можа гной паліваць вадою.

Вышыня гною ў гноішчы павінна быць ня вышэй $2^1/_2$ арш., каб у яе магло вольна праходзіць паветра. Верх гноішча лепш рабіць у выглядзе двухскатнай страхі. Верх гноішча пакрываецца вяршкі на 3 чорнай зямлёю, якая перасьцерагае гной ад сонца і ветра і добра ўпітвае аміяк. Таму гэтая зямля таксама павінна ісьці на ўгнаеньне.

Пры правільным доглядзе за гноем у кучы ён даволі хутка перапраўае і нямнога траціць угнойваючых матэрый.

**Акруговы аграном Уліцін.**

---



Ба 2042




## 1750 пуд. бульбы з дзесяціны.

Бульба дае вялікі даход гаспадарцы, але трэба дарадзіць, як яшчэ больш павялічыць яе ўраджай. Ураджай бульбы ў 750 пуд. з дзес. лічыцца ў нас добрым, а ў 1.000 надта добрым. Я-ж у сваёй гаспадарцы адтрымаў 1750 п. з дзес.—у два разы больш, чым бывае ўраджай у большасьці сялян.

Бульба расьце ў зямлі, але не на каранёх, а на асобных падземных паростках. Гэтыя паросткі адыходзяць ад сьцябла бульбоўніка, якое знаходзіцца ў зямлі, з так званых вузлоў. З кожнага вузла вырастае такіх паросткаў два. На кожным паростку вырастае па дзьве бульбіны. Такім чынам, з кожнага вузла палучаецца чатыры бульбіны. Зараз, як мы бачым, перад кожным гаспадаром стаіць такое пытаньне, каб найбольш вузлоў бульбоўніка схаваць у зямлю. Гэта дасягаецца глыбокай пасадкай і добрай асыпкай (акучваньнем) бульбоўніка.

Пасадзіўшы бульбу глыбока пад плуг, можа быць у зямлі болей вузлоў, чым пры мелкай пасадцы, але бульбоўнік без сьвятла расьце бледным і выцягваецца. Акрамя гэтага праз тоўсты пласт глебы трэба многа часу, каб паросткі здолелі выбрацца на паверх. Зразумела, што з гэтага сэнсу мала і так садзіць бульбу ня трэба.

Самыя лепшыя вынікі і найбольшы ўраджай атрымліваецца ў маёй гаспадарцы ад такой пасадкі: з раньняй вясны поле пад бульбу глыбока арэцца і пад гэту пахаць кладзецца гной, калі поле ня гнойнае. Гной трэба класьці добра перагніўшы. Потым поле пакідаецца на тыдні два, ня менш, каб гной лепш перагніў. Пасьля гэтага пахаць барануецца, далей разгортваюцца акучнікам глыбокія боразны на адлегласьці адна ад другой ня менш як на палову аршына, а то і шырэй і садзіцца бульба. У барознах бульба садзіцца адлегласьцю таксама ня меншай, як на палову арш. Бульба кладзецца ў баразну і ўціскаецца босаю нагою ў пульхную зямлю. Пасаджаная бульба пакідаецца на дні два праветрыцца. Праз дні два прыкрываецца зямлёй такім чынам: бярэцца калодка на $2^1/_2$—3 арш. даўжыні і каля 3 вярш. таўшчыні, к калодцы прымацоўваюцца аглоблі так, каб яна не кацілася. У аглоблі запрагаецца конь і калодка працягваецца ўдоўж радкоў па аднаму разу. Цягнучыся калодка згортвае ў барозны пульхную глебу і прыкрывае бульбу на 1—$1^1/_2$ вярш. Прыкрыць так пасаджаную бульбу можна і бараной, перавярнуўшы яе зубамі ў гору, але гэта ня так добра, бо застаецца частка бульбы ня прыкрытай. Гэтакім спосабам пасаджаная бульба вельмі скора ўсходзіць, бо тут складзены ўсе спрыяючыя ўмовы для яе росту—1) бульба садзіцца ў пульхную глебу, 2) прытаптваньнем дасягаецца тое, што к кожнай бульбіне лепш пад-

ходзіць зьнізу вільгаць, 3) прыкрываецца бульба пульхнай глебай, праз якую яна скора ўсходзіць і ўся разам; тут ёй ня прыходзіцца прабівацца праз цьвёрды пласт глебы, як гэта бывае пры пасадцы пад плуг. Расткі скора выходзяць наверх, даюць кароткія міжвузьлія, ня выцягваюцца, а карэньні ідуць лёгка ў пульхную глебу.

Калі бульба ўзойдзе і падымецца на вяршкі два, тагды яна асыпаецца мелка акучнікам з нерасхільванымі крыльлямі. Праз тыдні два, калі бульба паднімецца яшчэ вышэй, асыпаецца другі раз троха глыбей і крыльля асыпнікі нямнога расхінаюцца. Калі бульба пачынае красаваць, тагды асыпаецца трэці раз на ўсю глыбіню і шырыню асыпніка. Трыма акучваньнямі бульбоўнік высока абсыпаецца пульхнай зямлёй, у якой шмат прыкрыта вузлоў. Гэтым заканчваецца ўвесь догляд за бульбай. Прыбіраецца бульба з поля звычайным парадкам.

Дзякуючы такому спосабу пасадкі бульбы, я атрымаў ураджай 1750 пуд. з дзес. Плошча ўсяго палетка была 1 дзес. 250 кв. саж. Севазварот у маёй гаспадарцы 8-і польны. Я пад многімі карчамі лічыў колькі вырасла бульбін; былі карчы сама мала па 9 бульбін і даходзіла да 32 бульбін пад карчом. Найчасьцей жа было каля 18—19 бульбін.

Гэты спосаб пасадкі патрабуе толькі трохі болей працы, чым звычайны. Тут як бы лішняй працай зьяўляецца прыгатаваньне баразнаў і прыкрыцьце пасаджанай бульбы, а астатняя праца як пры звычайным спосабе пасадкі. Але на лішнюю працу не патрэбна ў два разы болей сродкаў і часу, а ўраджай атрымліваецца ў 2 разы больш.

**І. Хлапіцкі.**

(Узьдзенскі р.).

---

# Капуста па штучнаму ўгнаеньню.

У інструкцыі па правядзеньню палявых досьледаў, старонка № 10, сказана, што тамасаў шлак можна ўжываць як угнаеньне і пад капусту. Кіруючыся тым, я рашыў гэта і ў сябе праверыць. Раней за ўсё я павінен апісаць гісторыю таго кавалка зямлі, на якім я рабіў досьлед. Глеба тарфяністая кіслая, да 1924 года кавалак быў пад сенажацьцю, якая давала ад 20 да 40 пудоў кіслага балотнага сена на дзесяціну, а ў засушлівыя годы і зусім нічога не давала. Увосень 1924 года я гэты кавалак у 400 кв. саж. узараў і ў 1925 годзе пасеяў проса, ураджай якога быў дрэнны; у 1926 годзе пасеяў аўсавычку—ураджай быў сярэдні і ў мінулым 1927 годзе на кавалку ў 60 кв. саж. пасадзіў капусту сорт „Браўншвэйгская“, пры чым на 30 кв. саж. пасадзіў капусту па гнаі (1 пуд. на 1 кв. саж.), а на 30 кв. саж. па тамасавым шлаку (16 ф. на 30 кв. саж.). Час пасадкі і дагляд быў на абоіх дзялянках адзінакавы, толькі капусту па тамасаўцы за ўвесь час два разы паліў растворам Чылійскай Салетры. 1¹/₄ фунта салетры на 30 фунтаў вады, а ўсяго пайшло на 30 кв. саж. 5 фун. салетры. Вынікі ўраджаю былі наступныя: 3 дзялянкі па гнаі зьняў 29 пудоў, а з дзялянкі па штучнаму ўгнаеньню 33 пуды чыстых галовак капусты, а па разьліку на дзесяціну гной даў 2320 пудоў, а штучнае ўгнаеньне 2640 пудоў капусты.

Селянін-дасьледчык **Янка Судак.**

---

# Культурная града.

Вясною мінулага году я прасіў у сваёй сям'і, каб мне даручылі садзіць і даглядаць за гароднінай. Усяго гароду мне не даверылі, але для практыкаваньня далі вучастак у другім месцы. Па плошчы вучастак быў у 10 саж. даўжыні і 8 саж. шырыні. Вось і пачаў я яго апрацоўваць. Дамашнія заўсёды рабілі грады вельмі высокія, я-ж разагнаў толькі ў рады. Трэцьцюю частку заняў пад турнэпс, такую-ж пад буракі, а рэшту пад іншыя расьліны. Дамашнія, як і суседзі, садзілі капусту і буракі каліва ад каліва на чвэрць аршына зусім у сухую глебу, а я прагортваў ямку і ліў туды вады, каб вада накіроўвала кожны карэнчык, куды яму патрэбна, і каліва ад каліва садзіў на поўаршына і далей. Толькі буракі і гуркі садзіў трохі гусьцей. Каб скарэй расьлі мае расьліны, я прагортваў зямлю, сыпаў попел, потым зноў загортваў і паліваў зьверху вадою, каб попел ападаў наніз карэнчыкаў. А каб даць больш сокаў (яды) расьлінам я намяшаў усякага калу—конскага, сьвінога, кароўяга і нават курынага ў цэбар і, калі гэта мешаніна пастаяла больш як тыдзень, я рэдка разводзіў вадою і паліваў праз два дні. Усе сьмяяліся з мяне і маёй працы, але вось праз месяц мая капуста, буракі і гуркі былі на палову большыя, чым на дамашнім гародзе. Нават некаторыя суседзі зацікавіліся і пачалі прыходзіць паглядзець на добры выгляд майго гароду.

І вось сабраў ураджай: турнэпсу—50 пуд., буракоў—25 пуд., капусты—25 пуд. і гуркоў—20 коп. А ўсяго разам 100 пуд. караньплодаў і 20 коп гуркоў.

Качан капусты важыў 15-18 фун., столькі-ж важыў і турнэпс. Аб лепшым доглядзе за гародам я пазнаёміўся з с.-г. часопісаў. Тады і суседзі сказалі, што агранамічнае слова ў часопісі—правільнае слова. Дамашнія абяцалі ў гэтым годзе даверыць мне весь гарод.

Вёска Матырова. Сел. Ш.

---

# Досьлед з кармовай бручкай.

У сваёй гаспадарцы я ўжо пяты год сею караньплоды—турнэпс і буракі, кармовай-жа бручкі да мінулага году мне ня прыходзілася сеяць. У мінулым годзе, па прапанове часопісі „Плуг“, я зрабіў наступны досьлед:

На добра ўгноенай з восені глебе (2.400 пуд. добрага гною на дзес.) я адвёў дзьве дзялянкі па 12 саж. даўжынёю і 10 саж. шырынёю. На першай дзялянцы пасеяў радкамі насеньне буракоў і бручкі—радок буракоў радок бручкі і г. д. Насеньне буракоў у мяне было сваё, сорт „Экендорфская чырвоная“. Насеньне-ж бручкі купіў у крэдытовым таварыстве. Назвы сорта ня ведаю (карані яе круглыя, жоўтыя).

Пасеў быў зроблен 10 траўня. Сваячасова пасеў два разы быў прапалан ад пустазельля, прарэджан і два разы абгорнут асыпнікам.

Другую дзялянку я садзіў расадай буракоў і бручкі, якія былі высеяны яшчэ ў пачатку красавіка. Пасадка расады была зроблена 3-га чэрвеня. Рабіў пасадку пасьля добрага дажджу і праз гэта палівацць прышлося ўсяго адзін раз. Расада прынялася добра, так што падсадкі рабіць ня прышлося. Садзіў як і на першай дзялянцы праз радок. Адлегласьць расьлін у радкох была 5—8 вярш. і радок ад радка—12

вярш. Другая дзялянка палолася адзін раз і два разы абгортвалася асыпнікамі. Вынікі досьледу наступныя:

| ДЗЯЛЯНКІ | БРУЧКІ | | | | БУРАКОЎ | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | з дзес. | | з дзялян. | | з дзялян. | | з дзес. | |
| | пуд. | фун. | пуд. | фун. | пуд. | фун. | пуд. | фун. |
| 1-ая дзял. сеяная насеньнем . | 53 | 16 | 2136 | — | 57 | 2 | 2282 | — |
| 2-ая „ засаджаная расадай. | 64 | 3 | 2563 | — | 54 | 7 | 2167 | — |

Як відаць, бручку лепш садзіць расадай, бо тады атрымліваецца большы ўраджай, працы-ж ніскалькі ня больш, праз тое што ня прыходзіцца прарэджваць і лішні раз або два палоць. Бручка мае перавагу над турнэпсам, бо пры захоўваньні да вясны яна не загнівае.

Буракі-ж далі большы ўраджай тыя, якія былі пасеяны насеньнем.

Сел. **Л. Чалоўскі.**

Касьцюковіцкі раён.

---

# Мой досьлед з кармавою морквою.

У нашым раёне шмат глебы пяшчанае, а на пяшчанай глебе з караньплодаў лепш за іншыя караньплоды ўдаецца кармавая морква. Догляд за морквою такі самы як і за буракамі і турнэпсам, а харч, асабліва дзеля малочнай жывёлы, з морквы лепшы, як з другіх караньплодаў. Апрача таго морква лепш пераносіць сухмяні і ня так баіцца шкоднікаў (блыхі). Вось які вынік дала мне кармовая морква ў гэтым годзе пасеяная на розных угнаеньнях.

| Чарговыя №№ | ЯКОЕ ЎГНАЕНЬНЕ | Плошчы дзел. | Угнаеньне | | Ураджай | | Прыбаўка у пудох на дзес. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | на дзел. | на дзес. | з дзялянкі | з дзес. | |
| 1 | Кантроль (без угнаеньня) | 10 кв. саж. | — | — | 4 п. 33 ф. | 1158 п. | — |
| 2 | Калійная соль . . | „ | 2 фун. | 12 пуд. | 5 „ 26 „ | 1356 „ | 198 п. |
| 3 | Супэрфасфат . . . | „ | 2 „ | 12 „ | 5 „ 28 „ | 1368 „ | 210 „ |
| 4 | Калійная соль+супэрфасфат . . . | „ | 2 ф.+2 ф. | 12+12 п. | 6 „ 10 „ | 1500 „ | 342 „ |
| 5 | Кал. соль + супэрф.+салетра . . . | „ | 2+2+1ф. | 12+12+6 | 6 „ 22 „ | 1578 „ | 420 „ |
| 6 | Гной . . . . | „ | 5 пуд. | 1200 п. | 6 „ 30 „ | 1620 „ | 462 „ |

Табліца ясна паказвае, што затрачаныя грошы на штучнае ўгнаеньне акупіліся амаль у 5 разоў. Садзіць моркву лепш у рады без град, чым на градзе. Пасеў морквы я рабіў так. Вясною поле ўзараў глыбінёю на 4 вяршкі, а па дне разоры пусьціў акучнік, які ўспульхніў глебу яшчэ на 2-3 вяршкі, не выварочваючы яе наверх. Перад воранкай рассыпаў мінэральныя ўгнаеньні і гной, за выключэньнем салетры, якую ўнёс пад барану перад пасевам морквы. У сакавіку наганяў акучнікам баразён і пасеяў моркаў. На працягу лета я яе два разы прарэджваў і пульхніў. Адлегласьць радоў была наступная: 8 вяршкоў рад ад раду і 3—5 вяршкоў расьліна ад расьліны.

Цяпер моркву мы страўліваем каровам разам з амецьцем. Ляжыць морква вельмі добра і ў яме ня псуецца, тагды як турнэпс у той жа яме гніе.

Мая парада тым гаспадаром у каго ня ўдаюцца караньплоды—бурак і турнэпс, няхай яны папробуюць сеяць кармовую моркву.

Сел. дасьл. **А. Карнейчык.**

---

## Досьлед над сэрадэляй.

З 1927 г. я пачаў вясьці ў сваёй гаспадарцы досьлед. Перш-на перш я пасеяў па жыце сэрадэлю. Сеяў сэрадэлю вясною, як толькі зазелянела жыта. Пасеяўшы сэрадэлю прабаранаваў, каб яна лепш узышла і каб разбаранаваць скарынку глебы. Сэрадэля ўзышла роўна праз месяц. Вырасла яна скора і калі жалі, дык вярхі сэрадэлі зжыналіся разам з жытам. Пасьля жніва сэрадэля пашла расьці больш шпарка так што за 3 тыдні закрыла ўвесь ржэўнік. Сэрадэля расла і красавала да позьняй восені. Пад восень стаў касіць сэрадэлю па частках для корму. Сэрадэля памагла перайсьці павольным тэмпам ад пашы да сухога стойлавага корму. У каровы не ўмяншаўся ўдой малака, як гэта было раней пры пераходзе адразу з зялёнага корму на пашы да сухога ў стойле, калі ўдой малака памяншаўся на палову. А ў сялянскай гаспадарцы зялёнага корму вельмі мала ўвосень, бо капуснага лісьця і бацьвіньня ад караньплодаў ў гаспадарцы мала, яно зьядаецца раней, чым жывёла становіцца ў стойла. Сэрадэля елася каровамі вельмі ахвотна ня гледзячы на тое, што ў ёй было многа іржышча. У 1926 г. сэрадэля была пасеяна ў папары, як і ў суседзей, але дзякуючы таму, што тут раней быў лубін і заражана бактэрыямі, дык сэрадэля была добрая. А ў суседзей ня гледзячы на тое, што глеба была аднолькавая, але праз тое, што раней тут ня сеяўся лубін, сэрадэля ня вырасла і суседзі яе не касілі, а ўзаралі. Ураджай-жа жыта пасьля сэрадэлі быў аднолькавы, як у суседзей, так і ў мяне.

Селянін дасьледчык **А. Івановіч.**

(Самахвалавіцкі раён).

---




## Мясцовая карова і яе правільная ацэнка.

У сялянскай гаспадарцы ў нас найчасьцей трымаюць мясцовыя, непародзістыя каровы. Каровы гэтыя маюць няпрыгожы, худы выгляд, лахматыя, малыя ростам, а галоўнае даюць мала малака. Праз гэта і лічаць, што трымаць іх німа сэнсу.

Але ці запраўды наш мясцовы скот такі безнадзейна дрэнны. У вырашэньні гэтага пытаньня вельмі цікава азнаёміцца з працамі Новазыбкаўскай Вопытнай Станцыі з мясцовым скатом (Палескага р.). Палескія каровы вельмі дробныя (16 пуд. жывое вагі); удой у 25 шклянак (15 ф.) пасьля ацёлу лічыцца добрым. Гэты скот ня мог разглядацца інакш, як прыгодны толькі для таго, каб настойваць гной.



Карова назв. „Маруська", Новазыбкаўск. Дасл. ст.
Удой 228 ведзер малака з 4,6% жырнасьці

Новазыбкаўская станцыя завяла ў сваёй гаспадарцы такіх простых дробных кароў. Закупіла яна іх на кірмашы, г. зн. купляла тых кароў, якіх селянін выводзіў на продаж, як горшыя з тых, што меў. Усяго было куплена станцыяй 96 кароў. У сярэднім жывая вага каровы 16 пуд. Іх паставілі ў цёплы хлеў і сталі карміць па тых нормах, якія раіліся аграномамі для палучэньня высокіх удояў (1 карм. адзінка на 2½ п. жывое вагі дробных кароў і 1 кармовая адзінка на 2½ фун. жырнага малака). Пры кармленьні па нормах сярэдні ўдой гэтае групы кароў быў у 33 шклянкі (20 фун.), а за год 120 вёдзер. Такім чынам досьледы паказваюць нібы мясцовы скот запраўды безнадзейна дрэнны.

Аднак праз тры гады мы мелі такія вынікі: рэдкая карова з тых 96, што мы купілі, дае ў нас пасьля ацёлу менш вядра малака. Лепшыя каровы цяпер вылучаны ў стада (40 кароў) і даюць сярэдні ўдой пасьля ацёлу 60 шклянак (36 ф.), з хістаньнямі ад 50 да 73 шклянак.

60 шклянак замест 25. Як бачым у малых удоях была вінавата не карова. Трэба памятаць, што і правільнае кармленьне не адразу павышае ўдоі, а толькі тагды, калі карова аправіцца ад худобы.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Каровы прыбаўлялі вагу на | 1 | п., прыбаўлялі ўдой на | 4 | фун. |
| „ „ „ | 2—3 | „ „ „ | 10 | „ |
| „ „ „ | 4—5 | „ „ „ | 17 | „ |

Сярэдняя вага каровы нашага стада, што дае пасьля ацёлу 36 фун. малака, паднялася з 16 да 20½ пуд. Ні разу так ня было, каб з павялічэньнем упітанасьці каровы не павялічваўся-б і яе ўдой. Выходзіць, што калі нашых мясцовых кароў добра ўпітаць, то з іх лёгка вылучыць стада, якое можа раўняцца ва ўдоях з лепшымі стадамі яраслаўскага скота і з лепшымі мэтысамі нашага раёну.

Для параўнаньня скарыстаем даныя Маскоўскай Вопытнай Станцыі па яе яраслаўскаму стаду (выданьне 1925 г.) і сводку даных Яраслаўскага губэрнскага жывотнавода па лепшых яраслаўскіх стадах. Будзем мець такую табліцу:

| ГРУПА СКАТА | Вага каровы | Удой | % жыра | 1 % малака | За год Вёдзер | За год % жыра | За год Масла |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Яраслаўка плем. стада Маскоўскай станцыі . . . . . . . | 24 п. | 34 ф. | 3,6 | 122 ф. | — | — | — |
| Мясцовая карова нашага плем. стада. | 20½ „ | 36 „ | 4,1 | 147 „ | 220 | 4,33 | 333 ф. |
| Яраслаўка лепшых парод . . . . | — | — | — | — | 225 | 4,17 | 330 „ |

З гэтага відаць, што з нашых кірмашных кароў лёгка вылучыць стада, якое будзе ня горшае за лепшых яраслаўскіх.

Для характарыстыкі мэтысаў возьмем даныя Ярэмінскае групы Касьцюковіцкага Кантрольнага т-ва пад Гомелем з мэтысамі галяндцамі. У гэтым т-ве дзеля таго, што малако дорага прадаецца ў Гомель, скот корміцца вельмі добра. З 95 кароў т-ва возьмем 30 лепшых кароў. З 96 нашых кірмашных кароў возьмем таксама 30 лепшых кароў. Даныя маем такія:

| Група ската | Вага каровы | Пасьля ацёлу Удой | Пасьля ацёлу % жыра | Пасьля ацёлу 1 %-га малака |
|---|---|---|---|---|
| Мэтысы Касьцюковіцкага т-ва . . | 28 п. | 43 ф. | 3,6 | 155 ф. |
| Мясцовая карова нашага стада . . | 20½ „ | 37 „ | 4,1 | 152 „ |

Мы бачым, што мясцовая карова дала менш малака; затое яе малако больш жырнае. Малако-ж звычайна расцэньваецца па жыру. Пры такой расцэнцы (1 проц. малако) мясцовая карова параўнялася з галяндкай. Галяндка аднак мае большую жывую вагу, на якую патра-

буецца больш корму на падтрыманьне жыцьця. Значыць, каб парзўняцца з мясцовай каровай галяндка павінна бы даць больш 1 проц. малака, чым мясцовая карова.

Такім чынам праца Новазыбкаўскай станцыі паказвае, што нават на выгляд безнадзейная мясцовая 16 пуд. карова—палесчанка, можа лёгка стаць малочнай каровай. Над вывадамі Новазыбкаўскай станцыі павінен задумацца кожны гаспадар тых раёнаў, дзе пераважна трымаецца мясцовы скот.

Вывады такія:

1. Нізкія ўдоі мясцовых кароў звычайна бываюць у худога, галоднага ската.

2. Каб мясцовая карова магла даваць малака толькі, колькі яна можа даць—яна павінна быць да ацёлу добра ўпітана.

3. Мы ня маем права ганіць мясцовае каровы, пакуль яе да ацёлу добра ня ўпітаем.

4. Мясцовыя каровы, нават самых захудалых парод, бываюць часта настолькі ўдойлівымі, што гаспадар, правільна яе кормячы і даглядаючы, зможа ад яе мець малака ня менш, як ад яраслаўкі ці якоенебудзь мэтыскі.

*Новазыбкаўская Дасьледчая Станцыя.* Зоотэхнік **Е. Кляменчык.**

# Жывёлагадоўля ў савецкіх гаспадарках.

Становішча жывёлаводзтва ў савецкіх гаспадарках было вельмі цяжкае. Дзякуючы вайне і акупацыі, рагатай жывёлы ў саўхозах засталося вельмі мала. І толькі за апошнія гады яна пачынае павялічвацца. Рост колькасьці жывёлы ў савецкіх гаспадарках можна бачыць з наступных даных:

| | 1921 г. | 1922 г. | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Кароў узрослых . . | 657 | 950 | 1529 | 1604 | 3157 | 3957 | 4724 |
| 2 Маладняка . . . | 460 | 833 | 1385 | 1484 | 2900 | 2763 | 2798 |
| 3. Сярэдняе на гаспадарку кароў . . . | 3,4 | 5,9 | 10,9 | 13,7 | 19,4 | 25,7 | 31,1 |
| 4. Маладняка . . . . | 2,4 | 5,2 | 10,6 | 12,3 | 17,8 | 17,9 | 17,9 |

З гэтай табліцы мы бачым, што жывёла з кожным годам павялічваецца. Акрамя таго яна павялічаецца ня толькі па колькасьці, але і паляпшаецца па якасьці, па пародзе і ўдойлівасьці.

У 1922-23 г. саўхозская жывёла кармілася толькі гуменнымі кармамі і то не ў дастатку, а ў апошнія гады яна пачала атрымліваць і больш пажыўныя кармы (макуху, вотруб'е) і караньплоды. Сярэдняя норма харчаваньня аднэй дойнай каровы ў год гэтакая: канюшыны 53 п., сена лугавога 26 п., саломы яравой 46 п., караньплодаў 76 п., вотруб'я 8 п., зялёнага корму 153 п., макухі 13 п. і подсьцілкі 45 п. Гэта тлумачыцца тым, што саўхозы ўзмацнелі і пачалі купляць спажыўныя

кармы для жывёлы ў іншых прадпрыемствах. Акрамя гэтага саўхозы скарыстоўваюць для харчаваньня жывёлы адкіды з сваіх прадпрыемстваў, як напрыклад, з браварняў барду, мязгу з крухмальняў і інш. Апрача таго павялічваюць плошчу пасева пад караньплоды, канюшыну і травамі, напрыклад, у 1927 г. пад прапашнымі занята 18,1 проц, а ў 1922 г. было толькі 7,9 проц., пад канюшынай і травамі ў 1927 г.— 23,6 проц., а ў 1922 г. толькі 8,5. Таксама ў значнай колькасьці палепшаны хлявы, догляд за жывёлай і пачалося прымяненьне кармленьня па нормах.

Дзякуючы ўсяму гэтаму павялічыліся і ўдоі, што можна бачыць з наступных лічбаў:

| | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|---|
| Сярэдні ўдой каровы па гадох . . . . . . | 56 п. | 75 п. | 95 п. | **120 п.** |

У сувязі з палепшаньнем жывёлагадоўлі, павялічылася і перапрацоўка малака, як саўхозскага, так і сялянскага.

Жывёлагадоўля мае вялікае значэньне ў савецкіх гаспадарках. Ад яе залежыць разьвіцьцё і інш. галін—павялічаецца колькасьць гною, а праз гэта і ўраджай, расьце перапрацоўка малака і робіцца большы ўплыў саўхозаў на сялянскія гаспадаркі па паляпшэньню якасьці жывёлы і яе харчаваньня.

Агр. **Т. Анціпенка.**

---

# Засьцярога пры скарыстаньні папсаванае бульбы.

У многіх мясцох Беларусі недахоп харчу для жывёлы пачаў адчувацца даўно. Ня глядзячы на гэта насельніцтва рупіцца аб тым, каб у гаспадарцы было больш жывёлы. Вялікім прымусам к гэтаму зьяўляецца неабходнасьць для глебы гною. Праз гэта раней мала турбаваліся ў напрамку паляпшэньня жывёлы, а стараліся завесьці жывёлы больш лікам, каб толькі яна ўсю салому пературтала ў гной.

Калі гаварыць адносна кароў, дык прыбытак ад малака і ад прадуктаў яго вытворчасьці паступова зьвярнуў на сябе ўвагу. Год-адгоду пачалі гаспадары заводзіць лепшых, больш малочных кароў. Але дзеля таго каб каровы давалі болей малака, стала неабходным палепшыць ім і харч. Пры кармленьні адным балотным сенам і саломай аб павялічэньні ўдояў і думаць ня прыходзілася. Насельніцтва зразумела каштоўнасьць бульбы ў гэтай справе і пачалі ў значнай колькасьці скарыстоўваць яе. У тыя ж гады, калі сена ў гаспадарцы зьбіраецца мала, запраўленая бульбай сечка зьяўляецца галоўным кормам.

У апошні час акрамя бульбы пачалі сеяць для корму караньплоды і скарыстоўваць іх. Скарыстоўваюцца сялянамі як бульба, гэтак і караньплоды ў большасьці, а то правільна будзе сказаць і пастаянна толькі сырымі. Калі гэта будуць здаровыя, няпрымерзшыя і ня гнілыя караньплоды ці бульба, дык скармліваньне іх сырымі лічыцца добрым кор-

мам. Хаця аб бульбе, калі яна выбрана зелянаватай, недасьпелай і зараз схарчоўваецца, або калі яна пазелянела лежачы на сонцы, дык гэтага сказаць нельга.

Псуецца бульба ў гаспадарцы ў значнай колькасьці, напрыклад, пасьля таго як з баразён выбрана, а перааараць і пабаранаваць для выбіраньня рэшткі ў скорым часе немагчыма, дык частка застаўшаяся заўсёды псуецца. Псуецца бульба толькі лежачы зьверху ральлі пад асьвятленьнем сонца; але калі доўга прыходзіцца ляжаць да канчатковай прыборкі, дык зьверху набярэцца яе шмат. Частка выдзьмецца ветрам, а частка клубняў аголіцца праз асяданьне ўспульхненай ворывам глебы. Дапамагаюць у гэтым таксама і дажджы, якія змываюць рэшту зямлі з ляжачых бліжэй к паверху глебы клубняў. Гэтакая бульба толькі і скарыстоўваецца для корму жывёле, людзям-жа, што ўсім вядома, есьці яе зусім нельга, бо яна вельмі нясмачная—горкая. Але-ж горач тая нікуды не дзяецца, а застаецца ў бульбе. Выходзіць, на табе нябожа, што мне нягожа, як гаворыцца ў прыказцы, быццам жывёла не адчувае гэтай няпрыемнасьці. Калі-б гэтая горач ня была шкодліва, дык нечага было-б і гаварыць аб ёй, зьела жывёла і добра. Справа-ж у тым, што ў папсаванай бульбе горач ёсьць ня што іншае, як атрута. Атрута мае назву „солянін“ і скарыстоўваньне яе ў вялікай колькасьці можа ўчыніць ня толькі хваробу, але нават і сьмерць, як чалавеку, гэтак і жывёле. Орган смаку чалавека мімавольна адчувае горач атруты і мы папсаваную бульбу не ямо. Жывёла-ж прымушана бывае есьці, калі лепшага корму не даюць.

Сваю атрутную моц папсаваная бульба і ў арганізьме жывёлы выканае. Калі гэткае бульбы даецца ў харч мала, то ніякай шкоды жывёле як бы і няма. Калі-ж гэта будзе цягнуцца нейкі час, некалькі месяцаў, дык абавязкова жывёла захварэе. Захварэць яна можа і ў хуткім часе, калі колькасьць папсаванай бульбы дойдзе да атрутнадзейнай нормы.

Якая норма папсаванай бульбы шкодна для жывёлы сказаць трудна; гэта залежыць ад ступені яе папсованасьці; вядома толькі што атруты ў бульбе тым больш, чым яна даўжэй ляжала на сонцы. Ня толькі пазелянеўшая бульба нягодна для скарыстаньня сырою ў харч, тое-ж самае можна сказаць і пра мёрзлую. Мёрзлай бульбы ў нядбайных гаспадароў таксама часта бывае многа. Ня шчыльна зложаная выраўня, дрэнна зачыняемыя склепы, кепска абсыпаны капец, вось вынікі нядбайнасьці і будуць зьяўляцца ўмовамі для замярзаньня бульбы. Гэта бульба таксама ідзе ў харч жывёле.

Пры скарыстаньні замёрзшае бульбы зараз-жа пасьля адтайваньня, шкоды ня бывае. Трэба толькі ня даваць загніўшых як бульбы гэтак і кораньплодаў. Загніваюць яны, калі былі замарожаны, скора па адтайваньні. Ня можна даваць таксама мёрзлых, не адтаяўшых, бо скаціна захварэе прастудаю. Шкодна бульба і тады, калі на ёй зьявяцца буйныя паросткі і ў дадатак пазелянеюць ад сьвятла. Абаронай супроць гэтага будзе захаваньне бульбы вясною ў памяшканьнях, якія ня скора награюцца, доўга трымаюць аднальковую тэмпэратуру і мала асьвятляюцца. Прыблізна таксама шкодна і гнілая бульба.

Адчуваецца папсаваны харч на жывёле ў тым, што яна ня хоча добра есьці, спадзе з цела, пачынае хварэць і нават можа зусім прапасьці. Каровы, само сабой зразумела, зьмяншаюць, а то і зусім пакідаюць даваць малако.

Паправіць папсаваную бульбу магчыма, для гэтага трэба яе толькі спарыць. Тады ўся атруда ў зялёнай ці прарасшай бульбе прападае, а таксама зьнішчаецца шкоднасьць і гнілой бульбы. Моладзі-ж і жывёле, якая носіць у сабе прыплод, ня толькі папсаваную, але і здаровую бульбу даваць сырою забараняецца.

Калі прыходзіцца доўга харчаваць бульбай, дык ня толькі каровам, але і іншай жывёле лепш даваць яе паранаю, асабліва калі яна даецца ў вялікай колькасьці. Кораньплоды неабходна парыць толькі тады, калі яны прыгнілі.

Выпаўняючы гэтыя ўмовы гаспадар будзе абаронены ад выпадковага заняпаду сваёй жывёлы праз папсаваны харч.

С. Х.

---

# Сельска-гаспадарчае рыбаводзтва.

Ніхто на вёсцы ня цікавіцца справай рыбаводзтва. Сажалкі, вазёркі, балотныя лужы і г. д. застаюцца нескарыстанымі ў сельскай гаспадарцы і лічацца проста няўжытковымі; але іх можна прыстасаваць для гадоўлі рыбы, дзеля чаго трэба толькі падперці ваду насыпам і паставіць вадаспуск, зрабіўшы такім чынам сажалку.

Сажалка з няглыбокай (ня больш за 2 арш.) цёплай вадой, асабліва калі яна знаходзіцца ў лагчынцы паміж узгоркаў ворнай зямлі, з якіх з дажджом сьцякаюць у лагчынку карысныя часткі глебы,—зьяўляецца багатай пашай для рыбы; на дне такое сажалкі разводзяцца многа дробнай вадзяной расьліны і рознай жывёлы (лічынак, чарвячкоў і інш.), якая зьяўляецца спажыўным харчам для рыбы.

Цяпер пытаньне, якую-ж рыбу больш карысна разводзіць у гэткіх сажалках? Зразумела, няма ніякага сэнсу разводзіць і гадаваць так званую „дзікую" рыбу, якая ў нас вядзецца ў рэчках і вазёрах, бо яна расьце вельмі павольна і праз гэта ня можа даць значнага прыбытку.

Для гадоўлі ў сажалках ёсьць культурная парода к а р п, які адрозьніваецца ад іншай рыбы надзвычайна шпаркім ростам. У першае-ж лета свайго жыцьця, пры добрых умовах, карп вырастае да паўфунта. а ў канцы другога лета вага аднэй штукі можа дасягнуць 2-2$^1/_2$ ф.

Выпусьціўшы вясною ў сажалку з разрахунку на 1 дзес. 400-500 шт. гадавікоў карпа (якія пражылі лета і зіму), увосень можна атрымаць пудоў 25 рыбы; лічачы па 8 р. пуд—дзесяціна дасьць 200 р. прыбытку.

Гэткія карпы разводзяцца ў рыбаводных гаспадарках Наркамзема, дзе і можна атрымаць пасадачны матар'ял, гадавікоў карпа, на самых ільготных умовах, але трэба загадзя паклапаціцца аб гэтай справе.

Каб гэтай вясной можна было заняцца рыбагадоўляй, дык трэба цяпер-жа зрабіць заяўку ў Наркамзем альбо ў Менскі Акрземаадзел.

М. К-ч.

---

# ВЭТЭРЫНАРЫЯ.

## Што павінен ведаць гаспадар пра барацьбу з заразьлівымі хваробамі сьвіней.

Кожны гаспадар павінен ведаць, якія сродкі трэба ўжыць, калі ў ваколіцы дзе-небудзь аб'явяцца на сьвіньнях такія хваробы, як напрыклад чырвонка, чума і сэптыцэмія, а таксама—што трэба рабіць, каб адратаваць сваіх сьвіней і не дапусьціць да іх гэтых хвароб.

Галоўны сродак барацьбы з заразьлівымі хваробамі сьвіней—гэта прышчэпка здаровым сьвіньням забясьпечваючых вакцын і сыроватак, а захварэўшым прышчэпка лячэбных сыроватак. Дзеля гэтага трэба, каб вэтэрынарная дапамога была добра наладжана, каб у раёнах і вучастковых вэтлячэбніцах быў запас вакцын і сыроватак для прышчэпак і каб меліся ў адпаведным ліку спэцыялістыя для таго, каб з пачатку вясны шырока распачаць шчапеньне сьвіней цэлымі раёнамі.

Каб змагаццца з пасьпехам з заразьлівымі хваробамі сьвіней, трэба ведаць, адкуль яны паходзяць і якая прычына выклікае іх. Як вядома, пералічаныя вышэй хваробы (чырвонка і г. д.) выклікаюцца нябачнымі для простага вока жывымі істотамі, якіх навука заве бактэрыямі ці мікробамі. Гэтыя бактэрыі знаходзяцца ў паветры, у глебе, у вадзе і ўсюды наўкола нас, засяляюць кроў жывёлы і там множацца. Яны, гэтыя вінавайцы хваробы, пераносяцца з аднае гаспадаркі ў другую самымі сьвіньнямі альбо людзьмі, якія маюць датычнасьць да хворых ці здохшых ужо сьвіней. Таксама і сабакі могуць прыцягнуць на двор заразу з кавалкамі прапаўшае сьвіньні. Альбо зараза можа прыплыць разам з дажджавою вадою з рову, куды часта нядбайна выкідаюць здохшых сьвіней. Такім чынам, каб меней было гэтых сьвіных хвароб трэба ўважліва сачыць за тым, каб усё, што толькі можа расьцягнуць заразу, зьніштажаць або ачышчаць ад заразы (дэзынфэкцырваць). Перш-за ўсё, трэба ўсіх здохлых сьвіней і парасят глыбока закопваць, ня менш 3-х аршын, у зямлю на высокім і пясчаным месцы, альбо яшчэ лепей спаліць. Падсьцілку, на якой лажала хворая жывёліна, а таксама яе кал і інш. абавязкова патрэбна спаліць, таксама лепей усяго спаліць і карыта, з якога ела жывёліна.

Памяшканьне дзе былі хворыя сьвіньні, патрэбна вымыць рашчынаю сулямы альбо крэоліны, а ў раве гэтых сродкаў пад рукою ня будзе, то трэба вымыць сьцены і ўсе драўляныя часткі гарачым лугам, а потым пабяліць сьвежа-згашанаю вапнаю. Пабелку вапнаю добра паўтараць праз нейкі час, напрыклад 2 разы ў год—вясною і ўвосень. Для зьніштажэньня заразы адну частку вапны рашчыняюць у чатырох частках вады і гэтаю рашчынаю беляць сьвінарнік. На ўсялякі выпадак гаспадару трэба мець пад рукамі, апроч гэтае вапны, яшчэ неачышчаную корболаўку і крэолін.

Пры зьяўленьні пошасьці сярод сьвіней, гаспадар павінен заўсёды і неадкладна паведаміць аб гэтым свайго вэтэрынара. Толькі вэтэрынар можа ўстанавіць, якая гэта хвароба, якую прышчэпку трэба ўжыць супроць той ці іншай хваробы і якія меры неабходна прыняць для спыненьня яе.

Вэтэрынарны ўрач **М. Жарын**.




## Як аднавіць існуючыя сады і падняць іх прыбытковасьць.

У БССР налічваецца блізка каля 30.000 гэкт. садоў. Экспэдыцыйнае дасьледваньне садоўніцтва шэрагу акруг дае магчымасьць адзначыць асноўныя недахопы, аб якіх мы лічым патрэбным паведаміць чытачоў „Плуга“ і з якімі пажадана парадзіцца як палепшыць становішча нашых садоў, як зрабіць іх больш прыбытковымі, як зрабіць асноўны прадукт пладоўніцтва—яблыка больш таварным і здатным для ўнутранага і замежнага рынку.

Па-першае, мы павінны адзначыць недахопы, якія вельмі ўжо цяжка паправіць. Гэта адносіцца да тых садоў, дзе падглебавая вада бліжэй 2-х мэтраў ад паверхні. На ніжэйшых мясцовасьцях рэльефу, на гародных глебах часам закладаліся сады, якія ў першыя 5-10 год шпарка расьлі, а потым, калі карэньні дасягалі 1-$1^{1}/_{2}$ мэтр. у глыб, пачыналі душыцца ад недахопу паветру. Здараюцца выпадкі, калі сады праз 25 30 год прападаюць на роўных плошчах з лёгкай супяшчанай глебай, якая залягае на цяжкай марэне. Гэтакія сады трэба ратаваць шляхам правядзеньня адкрытых канаў з разьлікам, каб вясной і ўлетку лішак выпадзі спускаць па канавах. Няправільна заложаныя сады ў умовах дрэннага рэльефу мясцовасьці павінны нас навучыць таму, што *лепшым месцам рэльефу*, бязумоўна, зьяўляецца *слабы схіл з натуральным вадастокам.* Ні ў якім разе не займаюць нізіны, нават калі падглебавая вада глыбей 2-х мэтр., бо ў западзіны выносяцца ілаватыя часткі глебы і ствараюцца вельмі дрэнныя ўмовы для жыцьця гэтакіх шматгадовых расьлін, як пладавыя дрэвы. Яблыня, альбо ігруша павінны замацавацца на кавалку зямлі на працягу шмат дзесяткаў год, таму патрэбна карэньні ўмясьціць у такі асяродак, дзе будуць спрыяючыя ўмовы для доступу паветра, цяплыні, вільгаці і пажыўных частак. Затрымліваньне веснавой парой, альбо пад восень на пару тыдняў злішку вільгаці ў глебе вядзе да таго, што паветра выціскаецца, карэнчыкі пачынаюць гніць, што пагражае ўсяму дрэву.

На памылках мы вучымся, але ў гэтым напрамку ня трэба больш памыляцца. Зноў падкрэсьлім: *саджайце новыя сады выключна на схілах з добрым вадастокам* і ніколі ня на западзінах. Ёсьць мясцовасьці на некалькі кілёмэтраў удоўж і ўпоперак, дзе яблыні, ігрушы сустрэнуць дрэнныя ўмовы для свайго разьвіцьця. Часам здараецца, што гаспадар ня можа памірыцца з тым, што яго палетак не падыходзіць да пладоўніцтва, але гэтакія выпадкі ёсьць і будуць, калі ў некаторых гаспадарках ня знойдзецца належных умоў рэльефу і глебы для культуры яблыні, ігрушы.

Вельмі значнай хібай ў садох зьяўляецца гушчыня паміж дрэвамі. Нашы дасьледваньні сьведчаць аб тым, што на добрых глебах антонаўка праз 20-25 год раскідвае карону на 8-9 мэтр. (да 12-14 арш.). Мы лічым, што лік яблынь на 1 гэкт. павінен быць каля 90 і ня больш 120. Між тым у большасьці сялянскіх садоў лік дрэў на гэктар дасягае ад 200 да 300. Пры дапамозе пладовага дрэва мы скарыстоўваем сонечную энэргію, для чаго мы павінны адвясьці з самага пачатку той патрэбны абшар, які праз 15-25 год займе карона яблыні альбо ігрушы. Сады, у якіх 200-250 дрэў на 1 гэкт., паказваюць як нядбала мы адносімся да пладовай культуры, як мы яшчэ ня разумеем значэньня ў жыцьці расьлін паветру, вады і неабходнага абшару для атрыманьня патрэбнага сьвету.

У садох, дзе значная гушчыня, бязумоўна трэба будзе выкарчаваць у першую чаргу дрэнныя сарты, мала ўраджайныя, з хворымі штамбамі, дупламі і г. д. Гэтыя мерапрыемствы можна расьцягнуць на некалькі год і няўхільна сачыць за тым, каб у сад прывабіць сьвет і даць належнае месца яго дармовай, але вельмі каштоўнай працы.

Далей, у спадчыну нам дасталіся вельмі разнастайныя асортымэнты яблынь, ігруш, чаму мы маем значныя страты ад нашага пладоўніцтва. У сучасную пару мы маем у БССР больш 100 сартоў яблынь, паміж якіх у Бабруйшчыне, Гомельшчыне, Мазыршчыне мы сустракаем гэтакія сарты, якія маюць выключна гандлёвую вартасьць ня толькі на ўнутраных, але нават на замежных рынках. Трэба памятаць, што найбольш каштоўныя сарты яблык па смаку, паху, пекнаце ня ўступаюць лепшым экзатычным (з цёплых краёў) фруктам як апэльсіны, бананы і г. д. Таму і цана на розныя сарты яблык—розная. У студзені 1928 г. у Маскве яблыка-антонаўкі магчыма было купіць па 5-8 кап. за штуку., а ў магазынах 1 дзесятак крымскіх яблык, як ранэт шампанскі і інш. прадаваліся па 3 рублі.

Пладоўніцтва БССР адносна клімату магчыма падзяліць на 2 вялікіх раёны: на паўночны і паўднёвы. Паўднёвай будзе—ад чыгуначнай лініі Менск, Бабруйск, Гомель, тут праходзіць ізалінія вэгэтацыйнага пэрыяду ў 190 дзён (з тэмпэратурай вышэй +5° С). На поўдзень ад гэтай лініі шэраг Заходня-Эўропейскіх сартоў яблынь, ігруш, сьліў і г. д. адчувае сябе вельмі добра. Мы ня маем магчымасьці ў кароткім артыкуле апісаць падрабязна надзвычайна спрыяючыя ўмовы цяплыні, вільгаці, сьвету і інш. кліматычных фактараў, якія наглядаем у паўднёвай БССР. Прысутнасьць лёгкіх глеб, значны лік рэчак, вазёр—усё гэта станоўчыя ўмовы для вялікіх пэрспэктыў пашырэньня пладоўніцтва. Паміж шэрагу найбольш каштоўных сартоў яблынь у паўднёвай БССР зьвернем увагу на Бойкэн, які бязумоўна трэба будзе тэрмінова ўвясьці ў культуру. Гэты сорт маецца ў некаторых садох Бабруйшчыны.

Бойкэн у 1927 г. быў апісан у часоп. „Плуг“ Мазырскім дасьледчыкам А. Сіцько. Асобнасьці гэтага сорту наступныя. Калі перапрышчапіць яблынку (узросту 15-25 г.) у карону чаранком Бойкэну, дык праз 2-3 гады гэты сорт пачынае красаваць і даваць ураджай, а праз 5-6 год дрэва зусім адраджаецца, пачынае даваць паступова 3, 4, 5 і г. д. пуд. чыстых пекных яблык.

Улетку 1926 г. ў Слуцку ў садзе гр. Кабычкіча мы знайшлі яблыні Бойкэну ўзросту каля 25 г. з ураджаем да 12 пудоў (з 1 дрэва). Плады Бойкэну вельмі добрыя ў транспарце. Захоўваецца гэты сорт да лета і пасьпявае тады, калі антонаўкі ўжо няма на рынку. Лісьце

і плады не хварэюць ад грыбка Fusiclodium (паршы). Ураджай Бойкэну вельмі значны і досыць сталы пры належным доглядзе за дрэвам.

У гасп. „Бортнікі“ ў 23 клм. ад Бабруйску мы знайшлі ў пачатку верасьня 1927 г. некалькі дрэў (да 15) бойкэну, зусім здаровых з вялікімі каронамі, узросту каля 30 г., з ураджаем каля 10-12 п. яблык з 1 дрэва. Гэткі сорт, як Бойкэн вельмі шпарка ўздымае таварнасьць пладоўніцтва паўднёвай БССР. Найбольш культурным садаводам мы раім пачаць уводзіць гэты сорт з бліжэйшай вясны, запрышчэпліваючы яго ў карону (чаранком пад кару) яблынь мала карысных сартоў*).

Мы ўпэўнены, што калі наша насельніцтва памянёных акруг пазнаёміцца з гэтым сортам, дык не захоча антонаўкі. Для ўмоў Віцебшчыны, Аршаншчыны, Магілеўшчыны магчыма радзіць запрышчэплівыць у карону каштоўны сорт „Землянічнае Нічнера“, які знаходзіцца у сав. гасп. „Усьцьце“ г. Ворша.

Праф. **М. Бурштэйн.**

---

# Уплыў садовай гаспадаркі Браценкава на абкружаючае насельніцтва.

У Мішкаўскім с.-с., Бабруйскага раёну, ёсьць хутар Валасэвічы. Гаспадарка гэтага хутара па культурнасьці прылічваецца к першаму разраду, а гаспадаруе тут Макар Кліментавіч Браценкаў.

Браценкаў паходзіць з батрацка-бядняцкай сям'і. Першыя гады сваёй працы яму прышлося адбываць у гарбарнях г. Магілева, дзе ён быў тры гады ў якасьці найміта-вучня. Толькі потым, 27 год ад роду, неяк здолеў прымайстравацца на сваей радзіме—гарбаром. Але зямля цягне яго да сябе. І вось кідае ён гарбарства і ў 1896-97 г. купляе, пры дапамозе банку, зямлю. Пасьля пакупкі зямлі Браценкаў зараз-жа засноўвае садовы пітомнік і шчыра бярэцца за працу. Працы было шмат, а карысьці было мала, бо амаль што кожны год коні ды каровы прадаваліся за даўгі з торгаў банкам. Цэлы шэраг гадоў гаспадарка „хварэла“—толькі надзвычайная энэргія гаспадара вывяла яе на такі шлях, што ў сучасны момант яна стала прыкладам для ваколічнага насельніцтва.

Да браценкава ў раёне Качэрыч былі сады толькі ў панскіх дварох. У сялян-жа сядзела дзе-ні-дзе адно-два дрэўцы і толькі. Першы выхавальнік Браценкаў залажыў у 1898 г. на $^1/_2$ дзес. Цяжка прыходзілася наладжваць справу з першым выхавальнікам. Ведаў было ня вельмі шмат, ды к таму-ж не абышлося бяз кпінак суседзяй. Асабліва-ж калі Браценкаў засадзіў першыя $3^1/_2$ дзес. садам. „Макар думае гадаваць ваўкоў, бо лесу стала мала“—гаварылі сяляне.

Але малады сад даглядаецца надта старанна і расьце добра. Сяляне пачалі прыходзіць да Браценкава паглядзець і падзівіцца на яго сад. Патроху пачалі заводзіць гутарку аб тым, каб і ім пасадзіць колькі-небудзь прышчэпаў Першымі на гэта прышлі хутароўцы-Валосаўцы.

За хутароўцамі пашлі сяляне вёсак: Валосавіч, Мішкавіц, Цэйкавіч, Шпілеўшчыны, Леўкавіч, Шмакоў і інш.

---

*) Чаранкі (зрэзы) Бойкэну можна выпісваць ад А. Сіцько м. Капаткевічы, Мазырскай акр.

З 1907 г. сяляне пачынаюць па парадзе і пад кіраўніцтвам Браценкава закладваць свае выхавальнікі, для якіх бяруць пакуль што дзічкі ў самаго арганізатара, Браценкава. Апрача таго, што Браценкаў дае сялянам дзічкі і чаранкі з свайго саду, ён яшчэ вучыць сялян пасадцы, абрэзцы і наогул догляду за садам. Гэта можна бачыць з лістоў насельніцтва да Браценкава, якіх у яго маецца шмат. У сучасны момант маленькія школкі і выхавальнікі ёсьць амаль што ў кожнага селяніна-падростка. Ёсьць выхавальнікі ў 500—1000 і больш дрэў. З гэтых выхавальнікаў ужо даўно прадаецца шмат прышчэп на старану, што дае значны прыбытак сялянству.

Трэба сказаць пра некаторыя досьледы т. Браценкава. Яшчэ ў першым сваім садзе ён завёў некалькі дрэў з дарагімі крымскімі гатункамі, але хутка заўважыў, што кара на штамбах гэтых дрэў абмерзла, дрэвы хварэлі і, маючы каля 10 год узросту, усыхалі. Кара-ж на галінках заўсёды заставалася цэлай, не папсаванай марозам. Гэткае зьявішча дало думку прышчапіць крымскія далікатныя гатункі не на самым штамбе, а на галінках дзікіх, так званых, лясных дрэўцаў. Такая прышчэпка расьце добра, карона на штамбе не баіцца марозу і дрэвы не хварэюць. Ёсьць дрэвы ранэту, ангуле, бэль-флёру, дзюшэсу, бэрадзімо і інш. па 15—18 год.

Гэты вопыт з крымскімі сартамі праводзіцца Браценкавым 15—18 г. і даў надта добрыя вынікі. 1926 г. ён спэцыяльна засадзіў $^{1}/_{2}$ дзес. саду па новаму мэтаду з самых далікатных сартоў. Апошнія гады вядзецца вопыт прышчэпкі дрэў у рашчэп і за кару, але штамбік дзічкі ўвесь не зразаецца, на тым месцы дзе засаджваецца чаранок, а толькі да паловы дзічка. У зрэзаную палову садзіцца чаранок, які некаторы час расьце разам з дзічкай. Назіраньне паказвае, што чаранок пачынае хутка расьці і дае за лета лепшыя вынікі, чым звычайная прышчэпка.

У гэтым годзе Браценкаў зьбіраецца пашырыць свой вопыт і калі ён дасьць добрыя вынікі, дык абяцае падзяліцца з другімі сваімі думкамі і дасягненьнямі.

Трэці вопыт Браценкава вядзецца гадоў 10 з пасевам грэчкі, лубіну, сэрадэлі і інш. расьлін у садзе. Для гэтых досьледаў лубін, грэчка і інш. сеюцца тры разы ў год вучасткамі: раньняй вясной, потым позьняй у пачатку лета і адзін вучастак зусім не засяваецца. Гэты досьлед паказаў, што лепшыя плады там, дзе нічога не пасеяна, а горшыя—там, дзе пасеў зроблены раньняй вясной. Для вопыта бралася вага пладоў з вучастку, вымяраліся гадовыя паросткі, велічыня ліста, чыстата кары на штамбах і г. д.

Трэба сказаць, што з ўсімі сваімі досьледамі Браценкаў знаёміць усіх сялян, якія жадаюць што-небудзь пазнаць у садоўніцтве. Цяпер, як і дваццаць гадоў таму назад, вясной і летам у яго выхавальніку ці ў садзе можна бачыць, як тав. Браценкаў раіць і вучыць каго-небудзь з сялян тэй ці іншай з садовых ведаў. А сяляне прыходзяць здалёку паглядзець на здольны выхавальнік і сад, і каб скарыстаць добраахвотнага настаўніка-самавучку.

Паміж іншым трэба адзначыць, што ўплыў садоўніцтва тав. Браценкава не абмяжоўваецца Качэрыцкім раёнам, а вышаў замежы Бабруйшчыны. Ёсьць у яго лісты з падзякамі ад настаўнікаў і сялян з Меншчыны за добрыя чаранкі, якія былі прысланы Браценкавым

дарэмна. Прышчэпкі з яго выхавальніку выпісваюцца ў Быхаўскі, Рагачоўскі, Рэчыцкі раёны і нават у Валынскую губ.

Нарэшце трэба адзначыць, што ўвосень Валасоўскі раён робіцца ажыўлёным месцам, калі дзяўчаты і хлопцы абіраюць плады з сялянскіх садоў, пакуюць іх, а фурманкі цэлымі абозамі адвозяць ураджай-садовіну да чыгункі, адкуль ён адпраўляецца ў буйныя гарады.

Усё гэта дае значны прыбытак мясцоваму жыхарству.

**П-віч.**

---

# Некалькі парад селяніну—пчаляру.

Часта здараецца ў пачатку вясны, калі ўжо сонца пачне добра прыграваць, а сьнег яшчэ не растаў, што з тых вульляў, у якіх ляткі павернуты на поўдзень, пачынаюць вылятаць пчолы, ад чаго іх шмат гіне. Гэта тлумачыцца тым, што сонца сваімі праменьнямі, па-першае, награвае вульлі, а па-другое, асьвятляе ляткі вульляў, што і выклікае пчол на вылет. Таму трэба да вульляў з паўднёвага боку прыставіць дошкі, каб яны прыцянялі ляткі і вульлі ад сонца. Калі сьнег растане, дык дошкі трэба адняць.

Потым у вёсках таксама можна заўважыць тое, што некаторыя сяляне, каб пазнаць жывыя пчолы ці не, пачынаюць стукаць па вульлі пакуль не пачуюць што пчолы гудуць. А сьценкі ў вульлях, асабліва ў калодах бываюць вельмі тоўстыя і праз гэта прыходзіцца моцна стукаць і надта ўзбудараджваць пчол, каб пачуць іх зык. Ад стуку пчолы пачынаюць беспакоіцца, зьядаюць больш мёду, ад чаго іх страўнік і так перапоўнены калом, к вясьне яшчэ больш напаўняецца іяны пачынаюць не своечасова вылятаць з вульляў дзеля аблёта, дзе іх таксама шмат гіне ад холаду. Гэты шкодны спосаб можна зьнішчыць, замяніўшы на больш карысны. Трэба ўзяць звычайную гумавую (рызінавую) трубку, адзін канец яе ўставіць у лятoк, а другі прылажыць да вуха і тады вельмі выразна чуваць іх зык. Калі селяніну не мажліва дабыць гумавую трубку, дык самому можна зрабіць драўляную: узяць пруцік і прапячы ў ім дзірку каля 8-мі млм. (1/6 вярш.).

Патрэбна таксама паклапаціцца аб забароне пчол ад мышэй, асабліва для тых вульляў, у якіх вялікія ляткі. Робяцца яны вельмі проста. Бярэцца кавалак бляхі і вырэзваецца ў ёй шчыліна ня больш, як 8 мілімэтр. (1/6 вяршк.) шырыні (даўжыня на ўвесь лятoк) і прымацоўваецца невялічкімі цьвікамі супроць лятка. Праз такую шчыліну мыш не пралезе, а пчолы пралезуць свабодна. Вясной іх таксама можна адняць, бо калі стане цёпла, то мышы больш не палезуць у вулей.

**Міхась Сулкоўскі.**

Мар'іна-Горка.

---




## Шануйце лес мясцовага значэньня.

Раней наша старонка, Беларусь, лічылася мясцовасьцю багатай на лясы. Якасьць драўніны таксама вызначалася найлепшай, гэта падкрэсьлена аб нашым дубе на сусьветнай выстаўцы ў Парыжы ў давенны час. Аб якасьці можна гэта сказаць і цяпер, аб колькасьці-ж гэтак думаць можа толькі той, хто мала датыкаецца да лясной гаспадаркі.

Перад вайной і ў самую вайну вялікія лясныя плошчы паны павысякалі і потым не аблясілі. Дзякуючы гэтаму, дзе калісь шумеў магутны лес, там цяпер гуляе серп і каса, Рэвалюцыя таксама зьнішчала шмат лесу, бо мінэральны апал быў у белых і чыгункі, фабрыкі і заводы трэба было апальваць драўмі. Трэба згадзіцца з тым што ў нас на Беларусі лясоў мала, а патрэба ў іх вельмі вялікая.

Працоўнае насельніцтва мы здавальняем будаўлянаю драўнінаю, а таксама і апалам, ня поўнасьцю. Цяпер паўстае пытаньне, адкуль жа насельніцтва бярэ рэшту драўніны дзеля сваіх патрэб. Гэты драўны недахоп насельніцтва атрымлівае за кошт самачынных высечак з дзяржаўных лясоў, а галоўным чынам з лясоў мясцовага значэньня. Лясы мясцовага значэньня вельмі зьнішчаюцца самачыннымі высечкамі. Гэтак далей лясная гаспадарка існаваць ня можа, становішча лясной гаспадаркі трэба палепшыць, самачынныя высечкі трэба спыніць. Для палепшаньня становішча ў лясох мясцовага значэньня, для знішчэньня самачынных высечак я прапаную наступныя меры: 1) У лясох мясцовага значэньня трэба ўвясьці пастаянную платную лясную варту, якой аплачваць з даходаў ад лясоў мясцовага значэньня. Для гэтата лес трэба адпускаць больш заможнаму насельніцтву за грошы. Калі-ж гэтага зрабіць ня можна, дык плаціць за ахову з дзяржаўнага бюджэту і на кожны раён назначыць хоць бы па 1 аб'езчыку.

2) Ад чарговае аховы лясоў мясцовага значэньня абавязкова трэба адмовіцца, бо гэта павялічвае толькі самачынныя высечкі.

3) Лесаводам-жа лясоў мясцовага значэньня павялічыць сродкі на раз'езды таму, што за тыя грошы, якія асыгнаваны, абгляду на мясцох рабіць не мажліва.

4) Павялічыць лік тарфяных т-ваў і такім чынам павялічыць ужываньне торфу.

5) Распаўсюджыць таварыствы па вырабцы чарапіцы і цэглы, а таксама будаваць саманныя будынкі, для гэтага падрыхтаваць патрэб-

ную колькасць інструктароў, а таксама стрэхі рабіць з саломы прапітанай глінаю.

6) Сялянам прыгатаўляць апал улетку з размаітага валежніку, дзеля чаго па л-вах зрабіць месячнікі ачысткі лесу; у гэтай справе, як і наогул, зьнішчыць усякую фармальную валакіту ў л-вах.

7) Праводзіць чытку лекцый для сялян, дзе высьвятляць вялікае эканамічнае значэньне лясоў для сялянства Беларусі. Указваць, напрыклад, што лес задзержывае сьнег ад скорага растайваньня вясною, а гэта мае ўплыў на пастаянны ўзровень грунтовае вады, стрымлівае сыпучыя пяскі, якіх на Беларусі ёсьць значная колькасьць, асабліва пад сасновымі лясамі. На лекцыях трэба падкрэсьліць, што значная частка дзяржаўнага бюджэту будуецца з даходаў ад лясной гаспадаркі і, калі будуць вялікія самачынныя высечкі лесу, дык гэты даход паменшыцца і дзякуючы гэтаму ня будзе магчымасьці зьменшыць сельхозпадатак з бядняцкага насельніцтва. Таму трэба праводзіць думку, каб бедната прыняла ўдзел у зьнішчэньні самачынных высечак.

8) Клапаціцца аб арганізаваньні і ўцягненьні як мага больш насельніцтва да „Сяброў лесу“.

9) Павялічыць адказнасьць лясное варты за самачынныя высечкі.

Правёўшы ў жыцьцё вышэйпамянёныя прапановы можна спадзявацца, што самачынныя высечкі, калі ня зусім зьнішчацца, дык значна паменшацца і, такім чынам, становішча лесу палепшыцца.

Лесавод **Г. Барысевіч**.

---

# Паштовая скрынка.

**Селяніну Ш.**—Артыкул „Як гнуць дугу“ друкавацца ня будзе, бо гэта справа сялянам вядомая.

**Селяніну С. Астрэйка**—Кнігу „С.-г. досьлед на БССР“ С. Тупяневіча выслалі. Ці можна зьмясьціць артыкул аб дасягненьні вашай гаспадаркі, ня бачыўшы сказаць нельга. Прысылайце, калі падойдзе—будзе надрукован.

**Сел. А. В. Магучаму** — Частка з прысланых матэрыялаў скарыстаецца.

**Сел. А. Я. Карунчыку і Акшэўскаму**—Вашы лісты з водзывамі аб часопісі „Плуг“ і артыкулы для яе—атрымалі. Апошнія будуць па мажлівасьці скарыстаны.

**Сел. Г. Шасьцітку**—Ваш артыкул „Земляробы БССР“ пераслалі ў рэдакцыю газэты „Беларуская Вёска“.

**Сел. Ф. Г. Сопот.**—(адказ на запытаньне). Насеньне пладовых дрэў—яблыні, ігрушы, сьлівы, чарэшні высяваюць увосень і вясною. Для веснавога пасева насеньне страфіцыруюць, г. з. перамешваюць з вільготным рачным пяском і ў мяшку, або ў скрынцы закопваюць іх у сьнег ці зямлю, дзе яны і застаюцца да вясны. Робяць гэта ў сьнежні. Калі гэтага не зрабіць, дык насеньне вясною без памянёнай падрыхтоўкі ня ўзойдзе. Трэба клапаціцца ўвосень здабыць насеньня.

---

**Ад рэдакцыі:** У № 1 „Плуга“ 1928 г. на стар. 37 ў другім зьнізу радку надрукавана: насеньне трэба сеяць, як выпадзе сьнег, а трэба „як сыдзе сьнег“.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Пастанова Народных Камісарыятаў Замежнага і Ўнутранога Гандлю і Зямляробства БССР аб кантролю насеннага матар'ялу на 1928 г.

*11 студзеня 1928 г., г. Менск.*

На аснове пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР ад 9 верасьня 1923 г. „аб урэгуляваньні насеннага гандлю“ п. п. „в“, „д“ і „м“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Наркамунутргандлю БССР і ў мэтах усіленьня фактычнага кантролю за выкананьнем пастановы ЦВК БССР аб рэгуляваньні гандлю насеньнем, выданае ў мэтах снабжэньня насельніцтва насеннымі матар'яламі добрае якасьці, Народны Камісарыят Замежнага і Ўнутранага Гандлю і Народны Камісарыят Зямляробства пастанаўляюць:

1. Усе ўстановы і прадпрыёмствы, як дзяржаўныя, каапэрацыйныя, так і прыватныя, якія гандлююць насеньнем, павінны зарэгістравацца з атрыманьнем рэгістрацыйнае карткі.

2. Рэгістрацыю паказаных у п. I установ і прадпрыёмстваў ускласьці на акруговыя Земаддзелы і Райвыканкомы.

Гандляры насеньнем, якія маюць пункты прадажы насеньня ў акруговых гарадох БССР, рэгіструюцца ў АКРЗА, а якія маюць пункты прадажы ў раёнах—у адпаведных Райвыканкомах.

У заявах аб рэгістрацыі павінны быць паказаны:

а) месца знахаджэньня пункту (складу) насеннага гандлю.

б) асоба ўпаўнаважаная і адказная за вытвараемы гандаль насеньнем.

3. Рэгістрацыя гандляроў насеньнем павінна быць закончана к 15 лютага 1928 г.

*Увага*: Гандаль насеньнем, які адчыняецца пасьля паказанага тэрміну, таксама падлягае рэгістрацыі, зарэгістраваньне ў ранейшыя гады не аслабаняе гандляроў насеньнем ад рэгістрацыі, згодна гэтае пастановы.

4. Гандляры насеньнем абавязаны прадаваць насеньне толькі здавальняючае наступным умовам: а) па якасьці ў адносінах чыстаты, усхожасьці і гаспадарчай годнасьці ня ніжэй устаноўленых пастановамі ЦВК і НКЗ кандыцый для насеннага матар'ялу; б) адпавядаючае тым сартом, пад назваю якіх насенны матар'ял прадаецца.

Увесь выпускаемы насенны матар'ял гандлярамі насеньнем павінен быць праверан за свой кошт у адносінах якасьці і мець належныя пасьведчаньні кантрольна-насенных станцый НКЗ ці Дзяржаўнае Хлебнае Інспэкцыі па вытвару аналізу, якія павінны прад'яўляцца членам Кантрольных Камісій, працаўнікам Кантрольна-Насенных Станцый НКЗ і агентам Хлебнай Інспэкцыі.

Адсутнасьць на руках ў насенна-гандлюючых асоб памянёных пасьведчаньняў—разглядаецца як нарушэньне абавязковай пастановы.

5. Усе насенна-гандлюючыя арганізацыі пры адпраўках абавязуюцца да дублікату накладных прыкладваць зьвесткі аб якасьці насеньня на аснове даных па спробе гэтага насеньня са ссылкай на № пасьведчаньня і назву выдаўшай кантрольна-насеннай установы.

6. Для фактычнага кантролю за якасьцю выпускаемага ў продаж насеннага матар'ялу Земаддзелы і Райвыканкомы выдзяляюць асобныя кантрольныя камісіі з уключэньнем у іх спэціялыстых.

У задачы Камісіі уваходзіць: а) агляд насеннага матар'ялу ў мясцох іх прадажы і хаваньня, б) выемкі пробы і правядзеньня іх апрабаваньня ў неабходных выпадках, в) складаньне належных актаў і пратаколаў; г) праверка налічча ў насенна-гандлюючых асоб сэртыфікатаў, альбо пасьведчаньняў аб вытворчасьці спроб насеннага матар'ялу.

*Увага*: Кантрольным камісіям прадстаўляецца права да вытвару аналізу ўзятых проб забараняць прадажу насеньня, калі яно па надворнаму выгляду (паху, колеру) дае сумненьне ў іх добрай якасьці.

У сваей тэхнічнай працы камісія карыстаецца спэцыяльным апаратам кантрольна-насенных станцый НКЗ і хлебнай інспэкцыі, якімі вытвараецца па даручэньні камісіі работы па правядзеньню аналізаў і дачы кансультацый.

Склад Камісій і парадак іх працы ўстанаўляецца спэцыяльнай інструкцыяй, якня выдаецца НКЗ.

7. Прапануецца кантрольным камісіям зьвярнуць асаблівую ўвагу на кантроль завазімага з УССР канюшыннага насеньня з мэтаю папярэджваньня: а) распаўсюджваньня шкодных сарнякоў (павялікі) і г. д. і б) завозу неадпаведнага па кліматычных умовах насеннага матар'ялу.

8. Пры выяўленьні прадажы і хаваньня ў гандлёвых памяшканьнях насеньня, не адпавядаючага ўстаноўленым кандыцыям, а таксама за фальсыфікацыю насеннага матар'ялу, падмену сартоў, неадпавядаючым прадажным назвам сартоў, паказаны насенны матар'ял, не дазваляецца ў прадажу і ліквідуецца па ўказаньням камісіі, а віноўныя асобы, установы і прадпрыёмствы прыцягваюцца да крымінальнае адказнасьці, згодна пастановы ЦВК БССР ад 7 верасьня 1923 году па арт. 192 і 190 Крымінальнага Кодэксу.

Народны Камісар Гандлю БССР *Адамайціс.*

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *Каровікаў.*

---

## Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 96. Як быць у такіх выпадках, калі меншая частка грамадзян тэй ці іншай вёскі адмаўляецца ад выкананьня пастановы агульнага сходу сялян. У вёсцы 20 двароў, напрыклад, пастанавілі перайсьці на шматпольле, а 5 гаспадароў ад гэтага адмаўляюцца. Ці можна іх прыцягнуць за гэта да адказнасьці і ў якім парадку. (Сьвіслацкі Райвыканком).

Адказ. Калі на сходзе зямельнага вобчаства прысутнічаў паказаны ў 52 арт. зям. код. лік членаў, дык прынятая сходам пастанова, па агульнаму правілу, зьяўляецца абавязковай для нязгодных з пастановай сходу яго ўдзельнікаў, а таксама і ня быўшых на сходзе членаў вобчаства. Толькі па пытаньню аб зьмене існуючага ў вобчастве парадку землякарыстаньня пастанова вобчаства не абавязкова для яго членаў, якія жадаюць пазастацца пры ранейшым парадку землякарыстаньня. Па ўсіх жа іншых пытаньнях, а ў прыватнасьці пры пераходзе на шматпольле, законная пастанова сходу выконваецца ў адносіне ўсіх членаў вобчаства з спагнаньнем з іх у бясспрэчным парадку належачай за земляўпарадкаваньне платы. Ні да якой адказнасьці ня прыцягваюцца члены зямельнага вобчаства, якія ня жадаюць самахоць выканаць абавязковую для іх пастанову сходу.

# СЕЛ.-ГАС. ХРОНІКА.

## С.-г. курсы ў Мсьціслаўскім раёне:

З 15-га па 31 сьнежня 1927 г. у в. Белы-Мох, адбыліся 2-х тыднёвыя с.-г. курсы. Курсы з пачатку і да канца наведвалі 153 асобы, у тым ліку 33 жанчыны. Малодшых слухачоў меншая частка, у большасьці гэта былі самастойныя гаспадары, якія вялі сябе чынна, з глыбокай павагай да лектара-агранома. Пытаньні ў канцы лекцыі дзелавітыя, сур'ёзныя. Відаць, што на курсы людзі прышлі сапраўды вучыцца, а не таму, што ў дварэ ўзімку рабіць нечага.

З пачатку курсаў быў аб'вешчаны конкурс на лепшы скотны будынак. Ка дню зачыненьня курсаў сялянская жывёла стаяла ў цёплых і сьветлых будынках. У конкурсе прынялі ўдзел 19 гаспадароў; усе яны незаможныя сяляне. Паляпшалі свае будынкі і заможныя, але яны ад удзела ў конкурсе адмовіліся.

Прэмію атрымаў лепшы гаспадар вёскі Лісоўскі Саўка, які сее кораньплоды, выпісвае часопісі і г. д. Агульны сход слухачоў курсаў падкрэсьліў правільнасьць прызначэньня прэміі.

Агульны сход пастанавіў усяму селішчу Бел-Мох (летась земляўпарадкавана) перайці на шматпольле, арганізаваць групавы сад ня менш, як на 500 дрэў, арганізаваць садова-гароднае і быччае тарыствы.

**Перадача С.-г. калектывам прамысловых прадпрыемстваў.** Згодна пастановы Саўнаркому БССР ад 1-II-27 г. будзе перадана ў дзяржаўнае карыстаньне с.-г. калактывам 83 тэхнічныя прадпрыемствы, якія знаходзяцца на тэрыторыі калактыўных гаспадарак. Агульная вартасьць будынкаў і абсталяваньня гэтых прадпрыемстваў складае суму прыблізна каля 300.000 р.

**Абсьледваньне пчалярства Беларусі.** Аддзелам Сельскай Гаспадаркі Наркамзему распачата абсьледваньне пчалярства Беларусі.

Дзеля таго, каб правільна кіраваць разьвіцьцём пчалярства Наркамзему належыць ведаць, колькі ў Беларусі маецца пчалярскіх гаспадарак, ў якім стане яны знаходзяцца, якія патрэбы пчалярства і г. д.

Ужо разасланы ўсім АКРЗА апытальныя лісты—анкета, якая праз аграномаў ў бліжэйшы тэрмін будзе даручана кожнаму пчаляру. У анкеце 45 простых і зразумелых пытаньняў, на якія кожны пчаляр і павінен даць такія-ж простыя і зразумелыя адказы.

**Справа з пасяўным матэр'ялам у саўхозах.** Саўхозы забясьпечаны насеньнем к наступнай вясеньняй пасяўной кампаніі поўнасьцю. Акрамя гэтага будзе адпушчана сялянам 40.000 пуд. аўса, 12.000 пуд. ячменю, 3.000 пуд. канюшыны.

Намячаецца саўхозамі кантрактацыя (т. е. умова селяніна з саўхозам) сялянскай бульбы, асабліва тымі саўхозамі, дзе ёсьць бровары крухмальні.

Белсельтрэст для саўхозаў выпісаў штучнага ўгнаеньня: фасфарыту—46.000 пуд., супэрфосфату—56.000 п., тамасаўкі—30.000 п., калійнай солі—13.000 п., каініта—4.000 пуд.

Акрамя гэтага Белсельтрэст заказаў за межамі для саўхозаў абсталяваньне для 4-х масла-сыр заводаў і 2 малатарні. Намечана таксама купіць 41 трыер, 12 сартыровак і 10 тракатраў.

Адчыняецца ў 1928 г. ў саўхозах 10 масла-сыр заводаў.

**Пераапрацоўка малака ў саўхозах.**

| ГАДЫ | Пераапрацована малака | | Палучана ад пераапрацоўкі | | Колькасьць заводаў |
|---|---|---|---|---|---|
| | Саўхоз. | Сялянск. | Сыра | Масла | |
| 1924 . . . . . . . | 43000 п. | 1800 п. | 3360 п. | 420 п. | 16 |
| 1925 . . . . . . . | 145800 „ | 12000 „ | 6200 „ | 2800 „ | 23 |
| 1926 . . . . . . . | 150000 „ | 20000 „ | 10000 „ | 3200 „ | 29 |
| 1927 . . . . . . . | 200000 „ | 42000 „ | 17000 „ | 4200 „ | 44 |

Акрамя гэтага продана малака ў горадзе, а таксама рабочым і служачым каля 200000 пуд.

З табліцы відаць, што перапрацоўка свайго малака павялічылася ў 5 разоў, а сялянскага ў 23 разы; колькасьць заводаў таксама павялічылася ў 3 разы.

**Рыбаводзтва на БССР**. Рыкомыльскі рыбаводны завод прыступіў к засяленьню вазёр БССР чудзкім сігам. У гэтым годзе на памянёным заводзе заведзена каля 4 мільёнаў сігаў.

15-га лютага адчыняецца на Гомельскім возеры Полацк. акр. 2 рыбалоўных заводы з вытворчасьцю на 50 мільёнаў ікрынак.

На возеры Няшчэдра, Полацк. акр. пачаў зьяўлацца пры ўлове рыбы чудзкі сіг, які выведзен у гадавальніку і выпушчан у вышэй паказанае возера ў 1925 годзе. Вага сігу 450 гр.

• **Загатоўка інвэнтару для культур-тэхнічных работ**. У бягучым годзе для апрацоўкі асушаных балот у мэліорацыйных т-вах Наркамземам закуплена замежамі наступныя машыны і інвэнтар:

Балотных плугоў Гэрд-Эвена—241 шт., 8-мі дыскавых барон—30 шт., 8-мі дыскавых барон завода Рудомер Сакка з зубчатымі дыскамі—20 шт., балотных барон „Ранкло"—40 шт.

Акрамя гэтага выпісваюцца машыны і для мэханічнай апрацоўкі балот, а іменна: трактароў Пуцілаўскага заводу па тыпу „Фордзон" 20-ці сіл.—12 шт., трактар „Інтэрнацыянал" (з Амэрыкі) 20 сіл—1 шт., спэцыяльных балотных плугоў к трактарам завода „Олівэр" № 41—19 шт., спэцыяльныя дыскавыя бароны для работы трактарамі завода „Бехера" з Чэхаславакіі (маркі „А. Т. В. 24")—16 шт.

---

**Выданьне Наркамзему.** Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. калегія: *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Саф. Хоміч, Сьц. Тупяневіч.*



# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1928 год

НА СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧУЮ ЧАСОПІСЬ

## „ПЛУГ“

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:**

| | |
|---|---|
| На год . . 2 р. 20 к. | На 3 м-цы . . . 60 к. |
| На 6 м-цаў . . 1 „ 10 „ | Паасобны нумар. . 20 „ |

**ГАДАВЫЯ ПАДПІШЧЫКІ „ПЛУГА“ за 1928 г. АТРЫМАЮЦЬ У ПРЭМІЮ АДНУ С.-Г. БІБЛІОТЭЧКУ ПА ВЫБАРУ:**

1-ая прэмія—б-ка з 12 кніг; 2-ая прэмія—настольны сельска-гаспадарчы каляндар на 1928 год; 3-яя прэмія—б-ка з 6 кніг; 4-я прэмія—агранамічная б-ка.

**Па выбару гадавога падпішчыка прэмія будзе рассылацца дарэмна, калі падпіска зроблена толькі праз рэдакцыю „ПЛУГА“.**

**Гадавыя камплекты „ПЛУГА“ за 1926 і 1927 г. можна выпісаць за 50% падпісной платы (1 р. 10 к.).**

*Заказы на старыя №№ „ПЛУГА“ і іншыя выданьні НКЗ накіроўваць: Менск, Савецкая, 71, Выдавецтва НКЗ.*

НА 1928 ГОД **ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА** НА 1928 ГОД

**НА ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ І ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА І НАРКАМЗЕМУ**

## „СЕЛЬСКАЯ І ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА“

**У ФОРМЕ ДВОХМЕСЯЧНЫХ ВЫПУСКАЎ КНІЖНАГА ФОРМАТУ.**

**МЭТА ЧАСОПІСІ**—асьвятляць пытаньні сельскай і лясной гаспадаркі, грунтуючыся на выніках працы навуковых і дасьледчых устаноў Беларусі, паасобных дасьледчыкаў, на апошніх дасягненьнях сусьветнае навукі.

**ЧАСОПІСЬ РАЗЬЛІЧАНА** на масавага зямельнага спэцыялістага (агранома, жывёлавода, лясьнічага, коопэратара, каморніка, мэліоратара і г. д.).

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:**

| | |
|---|---|
| На год (6 нумароў) . 5 р. — к. | За 3 нумары 1927 г. . 2 р. 50 к. |
| На 6 месяцаў . . 2 р. 50 к. | Паасобны № . . 1 р. 20 к. |

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у Выдавецтве НКЗ (Савецкая, 71, Менск) і на кожнай пошце. АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Шырокая, № 28.**

